ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 14 4 красавіка 1996 г.

(2468) Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ — "НАРОДНЫЯ РАМЁСТВЫ"

## ВЫХАВАННЕ НА ВЕКАВЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

Асноўнымі відамі заняткаў студэнтаў ва універсітэце культуры з'яўляюцца музыка, харэаграфія, тэатральная рэжысура і рэжысура масавых святаў, бібліятэказнаўства і бібліяграфія. Але ў 1990 годзе ўпершыню ў вучэбны план ВНУ ўвайшлі выяўленчае і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, народная творчасць. Вядома, што Беларусь багатая на народных майстроў, самадзейных мастакоў, якія аб'яднаны ў адпаведныя калектывы -- гурткі, студыі, творчыя клубы, Дамы рамёстваў, працуе Саюз народных майстроў з адпаведнымі аддзяленнямі і секцыямі. Усім працэсам развіцця народнай творчасці і аматарскага мастацтва павінны кіраваць спецыялісты, якія ведаюць асаблівасці і спецыфіку менавіта гэтай галіны мастацкай культуры. Але ў Беларусі на працягу апошніх дзесяцігоддзяў ні адна спецыяльная сярэдняя ці вышэйшая навучальная ўстанова іх не рыхтавала. Метадыстамі абласных, рэспубліканскіх Дамоў творчасці, Дамоў мастацкай самадзейнасці, творчых клубаў, адказнымі за работу секцый народнай творчасці і аматарскага мастацтва пры раённых аддзелах і абласных упраўленнях культуры працавалі і пакуль працуюць спецыялісты самай рознай кваліфікацыі -- педагогі, журналісты, культасветработнікі.

**НА ЗДЫМКУ: студэнтка 5-га курса Наталля ГУБІНА працуе на ганчарным крузе.**

**(Працяг на 6-й стар.).**



*БЕЛАРУСЫ Ў ПРАЗЕ*

## ПРЫЯЗНІ ДАЎНЯЙ АДЗНАКІ



Незабыўныя дні, праведзеныя ў Празе, успамінаюцца сёння пад развітальна-тужлівую мелодыю верша Ларысы Геніюш, прысвечанага гэтаму казачна прыгожаму гораду:

**Бывай, дарагая мне Прага!..**
**Ты ў белы прыбралася іней,**
**калі карабель мой жыццёвы**
**спыніўся на Вэлтаве сіняй...**

**Адвагі было ў мяне мала,**
**настрой -- беларускі,**
**гаротны.**
**А ты снегам места**
**прыбрала**
**так белым, як нашы**
**палотны!**

**Ляцелі, як быццам**
**бы зоры,**
**танцуючы з ветрам,**
**сняжынкі.**
**У бель яны строілі горад**
**і цешылі сэрца чужынкі...**

Усё было так, як пiша Ларыса Геніюш. Нас сустрэла не залатая, а белая Прага, укрытая рамантычна-лёгкім, пушыстым снегам і выглядала надзіва прыгожа, як і тады, калі яе ўпершыню ўбачыла наша славутая суайчынніца і гэтак жа, як і мы, да стомы хадзіла па Градчанах, вузкіх вулічках Старога Места і слухала таемныя казкі "вежаў вяковых, што ў неба цягнуліся так стройна, як нашы таполі..." Гэтыя словы Ларысы Геніюш спадар...нічалі і вызначалі настрой б...усаў, якія наведалі Прагу 1... 6 лютага 1996 года.

Мэта паездкі -- правядзенне культурнай праграмы "Беларусы ў Празе", устанаўленне сяброўства па... новай Чэхіяй і незалежнай ...аруссю, аднаўленне даўніх беларуска-чэшскіх сувязей, якія пачаліся са Скарыны і асабліва ўмацаваліся на пачатку XX стагоддзя, у 20--30-я гады, калі там, на эміграцыі, знаходзіўся ўрад БНР, выдаваліся беларускія часопісы ("Іскра Скарыны", "Перавясла", "Беларускі студэнт" вучыліся ў Карлавым універсітэце многія беларускія студэнты, у тым ліку і таленавітыя беларускія пісьменнікі Уладзімір Жылка, Віктар Вальтар, які напісаў пра гэты перыяд раман "Роджаныя пад Сатурнам" (які, дарэчы, знойдзены і падрыхтаваны да друку С.Панізьнікам, немагчыма перавыдаць сёння на Беларусі), жыла Ларыса Геніюш, а пазней і Міхась Забэйда-Суміцкі...

Ідэя аднаўлення беларуска-чэшскіх сувязей узнікла яшчэ ў 1993 годзе, падчас святкавання 75-гадовага юбілею БНР, а ў жыццё пачала ўвасабляцца са жніўня 1995 года, калі беларуская дэлегацыя ўдзельнічала ў навуковай канферэнцыі па славянскай эміграцыі ў Празе. У той час старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Сурмач і старшыня сябрыны "Беларусь -- Чэхія" прафесар БДУ Ірына Шаблоўская правялі перамовы з кіраўніцтвам Чэшскага таварыства дружбы з народамі Усходу (SPNV) аб правядзенні культурнай праграмы як пачатку аднаўлення нашых узаемадносін.

**(Працяг на 5-й стар.).**

"ПОЧТА СССР" НА ПАШТОЎКАХ З БЕЛАРУСІ

## ДРОБЯЗІ, ЯКІЯ ПСУЮЦЬ ТВАР

У сваім жыцці мы настолькі прызвычаіліся да ўсяляіх казусаў і сафізмаў, што наогул перасталі іх заўважаць. Або ад неразумення, або ад абыякавасці беларусы пакуль дрэнна ўяўляюць, што ёсць "дробязі", якія надаюць краіне годнасці і выклікаюць пэўнае стаўленне да нас. Нашаму ўраду, які займаецца дасягненнем выключна глабальных мэтаў, як кажуць, не да дробязей, а грамадскіх інстытутаў, якія павінны пільнаваць, што ў дзяржаве нашай не так робіцца, пакуль няма. Так і жывём. Але раптам, калі нам адкрываюць вочы на тыя самыя "дробязі" людзі са староны чужой, робіцца няёмка і прыкра за сябе і за сваю дзяржаву.

Наш чытач з Вялікабрытаніі спадар Будкевіч даслаў у рэдакцыю ліст з выразкай. З канверта ад сваякоў з Навагрудчыны выразаны былі тры маркі з выявай "Пагоні", на якіх стаяў штэмпель "Почта СССР". Для замежнага беларуса бачыць такое -- і абраза, і боль. У жніўні будзе пяць гадоў, як Беларусь стала незалежнай. Відавочна, цікава даведацца, чаму Міністэрства сувязі суверэннай дзяржавы так неахайна ставіцца да вонкавай рэкламы Беларусі ў свеце, тым больш, што ў першую чаргу само павінна быць у гэтым зацікаўлена. Гэта далёка не адзінае нараканне ў адрас нашай пошты ад чытачоў "Голасу Радзімы". Таму накіравалася я на дзяржаўнае прадпрыемства "Мінская пошта", каб задаць свае і чытачоў пытанні і атрымаць тлумачэнні. Я была вельмі прыемна ўражана, як лёгка, без ніякага замаруджвання кіраўніцтва аддзела міжнародных перавозак пайшло на кантакт з прэсай. Я хацела б падзякаваць усім супрацоўнікам, з якімі сустракалася, за ўвагу і дапамогу. Сапраўды, за больш чым тры гадзіны на "Мінскай пошце" ў мяне была добрая магчымасць пазнаёміцца з яе працай, паразмаўляць, паназіраць і зноў прыйсці да высновы, што беларусы ўсё ж нацыя занадта своеасаблівая.

Маім першым субяседнікам быў **Уладзімір АМБРАЖЭЙ**, намеснік начальніка ДП "Мінская пошта" і кіраўнік вытворчасці па апрацоўцы і перавозцы пошты. Надпіс "Почта СССР" на паштовай карэспандэнцыі з Беларусі ён патлумачыў наступным чынам:

-- Праблемы беларускай пошты такія ж, як і ўвогуле ў краіне: няма грошай. У Беларусі ніколі не было вытворчасці, якая б вырабляла каляндарныя штэмпелі. Мы самі зацікаўлены рабіць рэкламу нашай дзяржавы ў свеце. Меркавалі спачатку зрабіць штэмпелі ў Расіі і звярталіся туды некалькі гадоў таму па дапамогу. Але ў нас запатрабавалі такія грошы, як быццам бы тыя штэмпелі будуць зроблены з золата. Тры-чатыры гады таму мы перажывалі цяжкі час: нават мусілі скараціць свой штат з 5 500 супрацоўнікаў да 3 200. Таму ў Мінску і вобласці мы пайшлі іншым шляхам: са старых штэмпеляў збілі і згаданы надпіс, і зорку з сярпом і молатам. Ну а гродзенская пошта аказалася, так бы мовіць, несвядомай, і ўсё пакінулі дагэтуль на штэмпелях, як і было (потым высветлілася, што яшчэ і Брэсцкая вобласць, і іншыя раёны. -- **Аўтар**).

**(Працяг на 3-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ ДАЕ ЗГОДУ

**27 сакавіка на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі з абгрунтаваннем неабходнасці заключэння дагавора аб саюзе з Расіяй выступіў Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка. Ацэнка намераў Прэзідэнта і яго дзеянняў была дадзена ў выступленнях дэпутатаў. У цэлым парламент падтрымаў Прэзідэнта і сваёй пастановай благаславіў на падпісанне дагавора з Расіяй.**

## З ВЫСТУПЛЕННЯ А. ЛУКАШЭНКІ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ 27 САКАВІКА 1996 ГОДА:

"Беларусь і Расія зыходзяць з таго, што ў рамках ствараемага імі Саюза яны ў поўным аб'ёме захоўваюць свае суверэнныя правы. Гэта, у прыватнасці, азначае, што на тэрыторыі Беларусі будуць дзейнічаць заканадаўчая, выканаўчая і судовая ўлады толькі нашай дзяржавы. Таму ні аб якой страце незалежнасці, здачы суверэнітэту размова не ішла і не ідзе.

Я хачу, каб вы зразумелі, што мы не ствараем новую дзяржаву, а фарміруем саюз дзвюх дзяржаў. Гэта дасць магчымасць аб'яднаць нашы рэсурсы для вырашэння найбольш сур'ёзных праблем, якія стаяць перад нашымі народамі.

Калі вы спытаеце, у чым галоўная мэта дагавора, які мы збіраемся падпісаць 2 красавіка 1996 года ў Маскве, то я адкажу: у паляпшэнні жыцця простага чалавека, беларускага і расійскага грамадзяніна.

Беларусы ў Расіі і расіяне ў нас будуць мець абсалютна роўныя правы ў пытаннях аховы здароўя, адукацыі, працаўладкавання, набыцця маёмасці, будаўніцтва жылля і іншых. Я заяўляю: у гэтых сферах мы поўнасцю адновім становішча, якое было раней, калі і беларус, і рускі адчувалі сябе членамі адной вялікай і дружнай сям'і. У Маскве і любым іншым пункце Расіі беларус не будзе адчуваць сябе іншаземцам або мігрантам.

У беларуска-расійскім збліжэнні няма нічога такога, што несла б пагрозу бяспецы, жыццю і здароўю нашых грамадзян. Крыкі аб тым, што з заключэннем дагавора беларусы паедуць у Чэчню, -- адкрытая і нахабная хлусня. Гэтага ніколі не будзе. Як кір к дзяржавы яшчэ раз заяўляю: ні адзін беларуск мадзянін ніколі не будзе ўдзельнічаць у ваенных дзеяннях за межамі нашай тэрыторыі. Трэба адзначыць, што расіяне гэта пытанне ў час перагавораў і не ставілі".

***

"Поспехі нашай усходняй палітыкі, блізкая пер -тыва выхаду беларуска-расійскіх адносінаў на якасна новы ўзровень узбударажылі нацыянал-радыкалаў і іншых палітычных спекулянтаў.

Іх не цікавяць лёсы людзей. Галоўнае -- падмануць як мага больш людзей, раскалоць грамадства і на гэтай хвалі паспрабаваць аднавіць страчаныя пазіцыі.

Для гэтага яны пайшлі на арганізацыю 24 сакавіка ў Мінску беспарадкаў. Натоўп нецвярозых малойчыкаў спрабаваў штурмам узяць тэлецэнтр, нападаў на міліцыянераў. Разлік арганізатараў быў просты -- справакаваць канфлікт, выклікаць ахвяры і на гэтым атрымаць палітычныя дывідэнды.

Але тыя часы, калі кучка крыклівых нацыянал-экстрэмістаў магла запалохаць людзей і паралізаваць уладу, прайшлі. Праваахоўныя органы дзейнічалі ў рамках закона, не паддаліся на правакацыю, і нацыяналісты не дасягнулі таго, на што разлічвалі. Тыя, хто арганізоўваў штурм тэлецэнтра, збіваў міліцыянераў і ўчыняў іншыя правапарушэнні, будуць пакараны. Цяпер праводзіцца разбор, і суд вызначыць меру адказнасці кожнага з іх.

Зразумела, нацыяналісты і падтрымліваючыя іх сродкі масавай інфармацыі будуць крычаць аб праследаванні за перакананні і палітычную дзейнасць.

На самай жа справе размова ідзе аб адказнасці за хуліганства, іншыя правапарушэнні і падбухторванне да іх учынення. За гэта ў любой прававой дзяржаве вінаватыя нясуць адказнасць. Так будзе і ў нас.

Але акрамя адказнасці юрыдычнай ёсць яшчэ і адказнасць маральная, палітычная. У зале сядзяць дэпутаты, якія ва ўсім гэтым прымалі ўдзел, сваімі прамовамі ўводзілі ў зман моладзь, настройвалі яе супраць улады, Прзідэнта. Думаю, што Вярхоўны Савет дасць адпаведную ацэнку іх дзеянням".

*ЗАЯВЫ*

## ПЕРАСЦЯРОГА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Сацыял-дэмакратычная фракцыя "Саюз працы" ў парламенце Беларусі выступіла з заявай наконт падзей у Расіі. У заяве адзначаецца, што па меры набліжэння даты выбараў Прэзідэнта Расіі барацьба за ўладу ў гэтай дзяржаве абвастраецца. Розныя палітычныя сілы гатовы актыўна выкарыстаць у гэтай барацьбе "беларускую карту". Менавіта гэта, на думку фракцыі "Саюз працы", выклікае трывогу і паказвае, што не выключаны варыянт уцягвання Беларусі ў расійскія палітычныя падзеі. Прадстаўнікі фракцыі адзначаюць, што ў нацыянальных інтарэсах Беларусі -- захаваць сяброўскія адносіны з Расіяй і расіянамі ў любым выпадку, незалежна ад вынікаў там выбараў. Для рэспублікі жыццёва важна, адзначаецца ў заяве, не страціць расійскія крыніцы сыравіны, вялікія рынкі збыту, утрымаць вытворча-эканамічныя сувязі з расійскімі прадпрыемствамі розных галін і ўсіх форм уласнасці. Грунтуючыся на вышэйсказаным, фракцыя сацыял-дэмакратаў лічыць "зусім немэтазгодным рабіць з беларускага боку якія-небудзь палітычныя крокі, якія ў той ці іншай ступені маглі б паўплываць на палітычныя працэсы ў Маскве", паколькі выбары прадстаўнікоў у органы дзяржаўнай улады Расійскай Федэрацыі -- унутраная справа гэтай дзяржавы, суверэннае права народа Расіі.

Сацыял-дэмакраты, яшчэ раз падкрэсліўшы неабходнасць прытрымлівацца курсу на цеснае супрацоўніцтва з Расіяй, тым не менш прапануюць устрымацца да скачэння ў суседзяў выбарчай кампаніі ад якіх бы там ні было дзеянняў, якія маглі б быць расцэнены як аргументы ў перадвыбарчай барацьбе.

*ЗАМЕЖНЫЯ СПРАВЫ*

## КОНСУЛЬСКАЯ СЛУЖБА

Указам Прэзідэнта Беларусі зацверджаны Консульскі статут Рэспублікі Беларусь. Карэспандэнт БЕЛТА звярнуўся да намесніка міністра замежных спраў рэспублікі Міхаіла Хвастова з просьбай пракаменціраваць гэту падзею.

-- Я згодны з тым, што гэта падзея, а не радавы факт -- няхай не ў жыцці ўсёй нашай дзяржавы, дык у жыцці беларускай дыпламатычнай службы, -- сказаў ён. -- Дарэчы, палажэнне аб нашай службе таксама нядаўна было зацверджана ўказам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Консульскі статут сёння з'яўляецца адзіным з нарматыўных актаў, які рэгулюе дзейнасць беларускіх консульстваў, у ім абазначаны задачы і функцыі консульскіх устаноў на тэрыторыі зарубежных дзяржаў.

Паводле слоў М. Хвастова, статут распрацаваны з улікам міжнароднай практыкі, асноўных палажэнняў Венскай канвенцыі аб консульскіх адносінах 1963 года і консульскіх канвенцый, заключаных Рэспублікай Беларусь з зарубежнымі дзяржавамі.

## ПЕРАЎТВОРАНЫ Ў ПАСОЛЬСТВЫ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб пераўтварэнні генеральных консульстваў Рэс ікі Беларусь у Рыме, Бухарэсце, Гаазе і Таронта па-ведна ў пасольствы Рэспублікі Беларусь у Італьянскай Рэспубліцы, Румыніі, Каралеўстве Нідэрландаў і ў Канадзе.

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*



Засталіся ззаду 22 гады блуканняў па інтэрнатах, заняткаў у прыстасаваных памяшканнях для навучэнцаў і педагогаў Магілёўскай дзіцячай музычнай школы N 3. Калектыў вытворчага аб'яднання "Хімвалакно" падарыў ім новы выдатны будынак, дапамог з абсталяваннем і мэбляй. Будаўнікі трэста N 17 "Лаўсанбуд", якія працавалі на аб'екце, набылі для школы канцэртны раяль. У школе ёсць камерны і духавы аркестры, аркестр баянаў і акардэонаў, створана два хары, а сярод выступаючых нямала лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў.

НА ЗДЫМКАХ: новы будынак школы; браты Раман і Саша ПАДАЛКІ іграюць у духавым аркестры.



*ЧОРНАЕ КРЫЛО ЧАРНОБЫЛЯ*



Горкае 35-годдзе выпала на долю сельскага клуба ў вёсцы Завадок Краснапольскага раёна. Дзесятую гадавіну чарнобыльскай аварыі яго паўразбураныя сцены сустракаюць сярод руін і зараснікаў бур'яну, што вырас вышэй за чалавечы рост.

*ПЕРАД ПАВОДКАЙ*

## АБЫДЗЕЦЦА Ў 170 МІЛЬЯРДАЎ

Каля 170 мільярдаў рублёў спатрэбіцца для арганізацыі ў рэспубліцы процідаводкавых мерапрыемстваў. "Пік веснавой паводкі прыпадзе на пачатак-сярэдзіну красавіка, -- лічыць начальнік упраўлення беларускага Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Анатоль Панамароў. -- Але калі тыдні паўтара мінусавыя тэмпературы ноччу пратрымаюцца, то надзвычайнай паводкавай сітуацыі ўдасца пазбегнуць".

Па прагнозах спецыялістаў, плошча затаплення можа дасягнуць 1,5 мільёна гектараў, на якой размешчана 165 населеных пунктаў у 45 раёнах рэспублікі. Прычым не выключаецца затапленне будынкаў у такіх гарадах, як Калінкавічы, Жыткавічы, Верхнядзвінск. Ва ўсе мяркуемыя раёны затаплення ўжо цяпер завозяцца неабходныя прадукты харчавання, медыкаменты. Паколькі, па словах Панамарова, у гэтых "гарачых" кропках магчымыя пашкоджанні сістэм энергазабеспячэння і камунікацый, то распрацоўваецца комплекс мерапрыемстваў па іх узнаўленню.

Па папярэдніх разліках, затраты на проціпаводкавыя мерапрыемствы складуць па Брэсцкай вобласці -- 48, Магілёўскай -- 49, Мінскай -- 14, Гродзенскай -- 9,5 мільярда рублёў.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У МІНСКУ адбыўся III Міжнародны кангрэс Лігі дэмакратычных партый краін міжмор'я. Прадстаўнікі Польшчы, Украіны, Беларусі і краін Балтыі абмеркавалі праблемы альтэрнатыўных крыніц пастаўкі нафты, будаўніцтва Чарнаморска-Балтыйскага нафтавага тэрмінала, узаемадачыненні з Расіяй.

ТРЫ ТЫСЯЧЫ фермераў у Беларусі налічваецца на гэту вясну. За мінулы год іх амаль што не прыбавілася. Сярэдні фермерскі надзел -- 20--30 гектараў. Рэдка хто атрымлівае 50 гектараў.

ПА ДАНЫХ сацыялагічных даследаванняў, 73 працэнты моладзі ў Беларусі галоўнай крыніцай прыбыткаў маюць заробак па месцу працы. Пры вырашэнні сваіх матэрыяльных праблем 60 працэнтаў моладзі спадзяецца на дапамогу бацькоў, а 44 працэнты разлічваюць на ўласныя сілы.

ДА РЭФАРМАВАННЯ (у 1992 годзе) ва Узброеных Сілах Беларусі было звыш 33,5 тысячы афіцэраў і генералаў. На 1 студзеня 1996 года ў нашым войску праходзіла службу каля 20 тысяч афіцэраў і генералаў. З Беларусі ў іншыя дзяржавы СНД выехала каля 3 тысяч афіцэраў, а ў нашу рэспубліку вярнулася 7 тысяч чалавек.

ДЗЯРЖАЎНЫ камітэт па друку звярнуўся ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь з просьбай выдзеліць грашовыя сродкі на выданне падручнікаў да новага навучальнага года. Міністэрства адукацыі і навукі, якое займаецца гэтым, не мае грошай -- яно завінавацілa выдавецтвам больш за 34 мільярды рублёў.

ЭКСПЕРТЫ Камітэта па ўнутранаму воднаму транспарту Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН рэкамендуюць развіваць Днепра-Бугскі водны шлях у якасці транспартнай магістралі для перавозкі грузаў. Ён мае значэнне не толькі для Беларусі, але ў перспектыве -- і для развіцця міжнароднага гандлю паміж Усходам і Захадам. Днепра-Бугскі водны шлях з'яўляецца часткай рачнога калідора Днепр-Вісла-Одэр.

*ВЫСТАВА Ў КАСЦЁЛЕ*

## ГІСТОРЫЯ АДРАДЖЭННЯ Ў ПАРТРЭТАХ

У сталічным касцёле святых Сымона і Алены адкрылася мастацкая выстава партрэтаў "Дзеячы нацыянальнага адраджэння Беларусі".

Тут прадстаўлена 90 партрэтаў беларускіх адраджэнскіх дзеячаў розных перыядаў. Ёсць партрэты сучасных беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Акрамя таго, на імпрэзе прадстаўлены рэдкі фотаздымак, на якім Максім Танк з дзеячамі беларускага Адраджэння.

*24 САКАВІКА 1996 ГОДА: ШТО АДБЫЛОСЯ Ў МІНСКУ*

# "МІТЫНГ — ГЭТА АКЦЫЯ, ІНІЦЫЯТАРАМІ ЯКОЙ СТАЛІ ПАЛІТЫКІ-БАНКРУТЫ"





**24 сакавіка 1996 года, у суботу, у Мінску меўся адбыцца мітынг, прысвечаны 78-м угодкам БНР. І адбыўся... палітычны ўсплёск на гістарычным фоне Акта 25 сакавіка. Заяўку аргкамітэта, які ўзначальваў Васіль Быкаў, Мінгарвыканком задаволіў напалову: замест шэсця ад плошчы Незалежнасці да плошчы Парыжскай камуны, дзе павінен быў адбыцца мітынг, дазволілі толькі апошні.**

**А тут яшчэ жару падкінуў Прэзідэнт Беларусі, які напярэдадні заявіў на ўвесь свет аб саюзе Беларусі з Расіяй. Нягледзячы на забарону, людзі прарвалі ўсе міліцэйскія кардоны і запоўнілі цалкам праспект ад плошчы Незалежнасці амаль да плошчы Перамогі, спыніўшы больш чым на гадзіну рух транспарту. На працягу дня адбыліся бойкі з АМОНаўцамі, многія пацярпелі. У шэсці і мітынгу прынялі ўдзел, па афіцыйных даных, 7 тысяч чалавек, па іншых звестках -- да 30 тысяч.**

**Побач змяшчаем афіцыйны каментарый падзей.**

Мітынг, што адбыўся ў нядзелю, 24 сакавіка, -- гэта цалкам мэтавая, канкрэтная палітычная акцыя, ініцыятарамі якой выступілі ўсе былыя і, як правіла, палітыкі-банкруты, заявіў у гутарцы з карэспандэнтамі БЕЛТА намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Замяталін.

Перш за ўсё гэта Беларускі народны фронт, які не атрымаў ніводнага месца ў Вярхоўным Савеце на праведзеных у мінулым годзе выбарах, былыя дэпутаты парламента папярэдняга склікання, былыя сапернікі Прэзідэнта на прэзідэнцкіх выбарах і, на жаль, нязначная, мікраскапічная частка цяперашніх дэпутатаў, якія катэгарычна не прымаюць палітыкі Прэзідэнта, за якую народ прагаласаваў на прэзідэнцкіх выбарах і якую пацвердзіў на рэферэндуме 1995 года, і, безумоўна, яны не прымаюць усяго, што робіць Прэзідэнт.

Яны добра разумеюць, што 2 красавіка, у дзень падпісання дагавора паміж Беларуссю і Расіяй, настае лагічнае статус-кво двух народаў пры захаванні іх суверэнітэту. Таму спрабуюць разыграць палітычныя карты, якія кранаюць душу кожнага беларуса. Гэта перш за ўсё магчымасць удзелу Беларусі ў нейкіх канфліктах, паколькі наша рэспубліка мае трагічную гісторыю: кожны трэці загінуў у апошняй сусветнай вайне. Таму яны гавораць: падпісанне гэтага дагавора раўнацэнна таму, што салдаты і афіцэры Беларусі будуць праходзіць службу ў "гарачых кропках", у тым ліку і Чэчні.

Гэта безумоўная хлусня, якая не адпавядае сэнсу і характару таго дагавора, што будзе падпісаны і аб якім Прэзідэнт у бліжэйшы час мае намер расказаць у Вярхоўным Савеце, растлумачыць беларускаму парламенту і народу, што ўяўляе сабой праект дагавора. Сумна, што праваахоўныя органы зусім не звяртаюць увагі на тыя заявы палітычных банкрутаў, якія, былі выказаны на мітынгу: ад адкрытай русафобіі, распальвання міжнацыянальнай варожасці, да прамых зняваг Прэзідэнта. Праводзяць паралель з румынскімі падзеямі, якія, на іх думку, немінуча павінны адбыцца ў нашай рэспубліцы. Заклік Зянона Пазьняка ледзь не да штурму тэлецэнтра -- вядомая формула вядомых палітыкаў, якія заўсёды штурхалі на авантуры з мэтай паставіць народ у самую крытычную сітуацыю, падкрэсліў У.Замяталін.

-- Я цалкам перакананы ў тым, што народ Беларусі разумее, што адбываецца на яго тэрыторыі. Гэты мітынг сведчыць аб канвульсіях тых сіл, якія не ў стане прапанаваць нешта іншае замест той палітыкі, якую праводзіць Прэзідэнт, -- адзначыў У.Замяталін. -- Тое, што прапануе Прэзідэнт, прадыктавана жыццём, гісторыяй Беларусі і Расіі, а таксама апошнімі пяццю гадамі, у выніку якіх кожны просты беларускі чалавек лепш жыць не стаў. Альтэрнатывы палітыцы Прэзідэнта на сёння не існуе. Гэта разумеюць і арганізатары мітынгу. Адсюль і хамства, падбухторванне, да якіх яны вымушаны звярнуцца як да спосабу вядзення палітычнай барацьбы. Іншага ў іх няма. Народ, паўтараю, разбярэцца, хто з'яўляецца палітычным шарлатанам, а хто робіць для яго максімальна магчымае.

Што датычыць сродкаў масавай інфармацыі, то ў Беларусі паўтарылася тая ж сітуацыя, якая адбылася нядаўна ў Маскве. Ні адзін кіраўнік СНД яшчэ не атрымаў рэальных дакументаў, прынятых расійскай Думай, не атрымала іх ні адна дзяржаўная структура ў Расіі, а сродкі масавай інфармацыі развязалі сапраўдную вайну супраць іх, каб навязаць грамадск[illegible] іншы пункт гледжання. Дарэчы, ні [illegible]нансацыі Белавежскіх пагадненняў, ні [illegible] нечым падобным размовы не было, заявіў У.Замяталін.

На яго думку, тое ж здарылася і ў нядзелю. Сродкі масавай інфармацыі Расіі пачалі гаварыць аб тым, што ў Беларусі -[illegible]ігутнае процістаянне лініі Прэзідэн[illegible] эта зусім наіўныя рэчы, паколькі ў такіх выпадках кожны раз трэба звяртацца да майскага рэферэндуму. А тады 85 працэнтаў тых, хто галасаваў, выказаліся за палітыку Прэзідэнта. Прэзідэнт яе і ажыццяўляе.

У Расіі таксама існуюць сілы, што выступаюць супраць інтэграцыі на тым узроўні, аб якім вядзе размову наш Прэзідэнт. Наколькі яны моцныя? Суадносіны слана і мопсіка. Працэс, які ідзе з нетраў народаў, спыніць немагчыма. Яго можна прытармазіць на нейкі час. Але кожны, хто становіцца тормазам гэтага працэсу, павінен разумець і ступень адказнасці, якая на яго ляжа. Гэтак жа, як пан Шушкевіч павінен разумець сваю адказнасць за тое, што ён зрабіў у 1991 годзе. З адчуваннем гэтай меры няхай ён ходзіць увесь час, пакуль ён жыве на нашай зямлі, падкрэсліў У. Замяталін.




---

# ДРОБЯЗІ, ЯКІЯ ПСУЮЦЬ ТВАР

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

**-- Але нехта павінен быў за "візітоўкай" краіны прасачыць!**

-- Так, але за ўсім не прасочыш. У Гомелі, напрыклад, наогул, здолелі зрабіць новыя штэмпелі, не ведаю, як у іх атрымалася, але гэта факт. На сённяшні дзень "Мінская пошта" закупіла абсталяванне, і завод "Прамсувязь" пачынае выраблядь новыя штэмпелі, якія і павінны стаць сапраўднай "візітоўкай" Беларусі.

**-- Ці можна іх чакаць да пяцігоддзя суверэнітэту. На якой яны будуць мове!**

-- Дату цяжка вызначыць. Хутка будуць гатовы першыя ўзоры. Яны павінны быць адобраны кампетэнтнымі асобамі. Потым іх трэба вырабіць. Увод новых штэмпеляў будзе ажыццяўляцца пастутова. Пачнецца ён з Мінска і далей -- па абласцях. Плануецца, што мова, згодна з канвенцыяй Міжнароднага саюза, будзе часткова французская, а часткова дзяржаўная, мяркую, беларуская.

Патлумачыўшы гэта, Уладзімір Канстанцінавіч перадаў эстафету свайму падначаленаму **Мікалаю ЖАКАВУ**, які кіруе працай цэха пісьмовай карэспандэнцыі. Ён і павёў мяне па калідорах і цэхах, адказваў на пытанні, знаёміў з працэсам апрацоўкі карэспандэнцыі ад пачатку да канца. Падарожжа атрымалася цікавым, але супярэчлівасць уражанняў ад убачанага рабіла яго і сумным. Паступова акрэслівалася, што недастаткова быць добрым работнікам і сумленна рабіць сваю працу, патрэбна быць яшчэ і годным грамадзянінам --неабыякавым, інакш "Почта СССР" яшчэ доўга будзе ўпрыгожваць лісты з Беларусі.

Мы ішлі ўздоўж шэрых сцен, на якіх вісяць плакаты дзесяцігадовай і больш даўнасці. На насценнай газеце савецкіх часоў вялікімі літарамі напісаны вытрымкі з Канстытуцыі СССР аб тым, што "Граждане СССР обязаны беречь природу..." З "Кутка паляўнічых і рыбаловаў" замест інфармацыі на гэтую тэму з-пад шкла недарэчна глядзеў на мяне былы генсек СССР Юрый Андропаў. Раптам дзверы адчыніліся, і мы з савецкай мінуўшчыны адразу апынуліся ў пакоі, начыненым суперсучаснай тэхнікай, якой няма нават аналагаў у СНД. Сюды ў аддзел аўтаматычнай сістэмы кіравання пошты паступае ўся інфармацыя аб паштовых адпраўленнях у Беларусь і з Беларусі, потым яна ўводзіцца ў камп'ютэр, і далей машына робіць сартаванне, фармуе і звярае дэпешы па самых зручных праграмах, якія распрацаваны сваімі праграмістамі. Каб адправіць пошту ў адну толькі краіну, трэба запоўніць і аформіць 13 лістоў паперы. Можна толькі здагадвацца, наколькі спрасцілася і адначасова стала больш эфектыўнай праца данага падраздзялення.

Сартаванне ж міжнароднай карэспандэнцыі ажыццяўляецца ўручную. Пазменна працуюць дзве брыгады па 17 чалавек -- усе жанчыны -- без выхадных і святаў па 12 гадзін у суткі. Абмен карэспандэнцыі на цяперашні момант ажыццяўляецца напрамую ва ўсе краіны свету, мінуючы Маскву.

**-- Мікалай Мікалаевіч, я сапраўды заўважыла, што пісьмы сталі прыходзіць хутчэй: некаторыя з Еўропы ўсяго за пяць дзён, але іншыя -- за дватры і болей тыдняў. З-за акіяна яны часам ідуць цэлы месяц. Некаторыя пісьмы наогул губляюцца. Як можна патлумачыць такую розніцу! — спытала я ў Жакава.**

-- Па-першае, я хацеў бы заявіць з усёй адказнасцю, што менавіта ў нас нічога не губляецца. Усё, што праходзіць праз нашы рукі, накіроўваецца непасрэдна адрасатам. Аднойчы мы атрымалі мяшок, які ішоў "наземным" шляхам з Аўстраліі ледзь не год. Уся карэспандэнцыя ў ім была пашматана і перабблытана. Мы мусілі прыцягнуць перакладчыкаў, каб разабрацца, куды ўкладаць пісьмы, фотаздымкі і г. д. І там, дзе магчыма было разабраць адрасы, людзі атрымалі ўсё ж карэспандэнцыю. У такіх выпадках мы ставім пячатку "Атрымана ў пашкоджаным выглядзе". Што тычыцца розных тэрмінаў, дык тут можна толькі здагадвацца. Беларусь яшчэ малавядомая ў свеце дзяржава. Па звычцы на канверце часам пішуць Russia ці ex-USSR, і таму 30-40 працэнтаў карэспандэнцыі ўсё роўна трапляе яшчэ ў Маскву, а адтуль ужо -- да нас. Больш марудна ідзе пошта ў краіны Балтыі і некаторыя краіны Заходняй Еўропы, якія маюць транзіт праз гэтыя дзяржавы, бо дасылаецца яна туды толькі наземным шляхам, а цягнік -- два разы на тыдзень. Наогул, калі тэрмін дастаўкі ў далёкае замежжа скараціўся, у блізкае --падоўжыўся, таму, што карэспандэнцыя па СНД ідзе толькі праз Маскву. Хто што б ні казаў пра нашу працу, мы ставімся да яе з большай адказнасцю, чым іншыя замежныя службы. Асабліва ў мяне шмат прэтэнзій да паштавікоў менавіта Англіі і яшчэ Польшчы, якія працуюць вельмі неакуратна.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

# ЭВАЛЮЦЫЯ ІДЭІ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## Ў ВЫЗВАЛЕНЧЫМ РУХУ БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVIII — ПАЧАТКУ XX СТАГОДДЗЯЎ

Каліноўскі ад імя ЛПК напісаў рэзкі пратэст супраць гэтай акцыі, ацаніў яе як здраду рэвалюцыі, якая будзе мець пагібельныя для яе наступствы, але, усведамляючы слабасць сваёй пазіцыі, вымушаны быў падпарадкавацца галаве паўстання і прыняць назначэнне на пасаду гродзенскага ваяводскага камісара.

Абмежаваная праграма паўстання, прадыктаваная шляхецкімі рэвалюцыянерамі, стаўка на шляхту як галоўную і вядучую сілу ў барацьбе за аднаўленне Рэчы Паспалітай як унітарнай польскай дзяржавы, безумоўна, прычыніліся да паражэння паўстання. Жорсткае падаўленне яго і рэжым выключных законаў, устаноўлены ў Беларусі--Літве ў 60-я--70-я гады XIX стагоддзя, надоўга прыпынілі развіццё беларускага нацыянальнага руху не толькі ў палітычных, але і ў культурных формах.

У 70-я гады адбываецца пераарыентацыя вызваленчага руху ў Беларусі, у тым ліку нацыянальнага, на саюз з расійскім народніцкім рухам. Гэта яскрава праявілася ў праграмных заявах, адозвах, публіцыстычных творах гурткоў студэнцкай моладзі з Беларусі, якая вучылася ў расійскіх вышэйшых навучальных установах, найперш у Пецярбургу. Маю на ўвазе такія падпольныя выданні канца 70-х — пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя, як адозвы "Да беларускай моладзі", "Да беларускай інтэлігенцыі", "Пісьмы пра Беларусь. Пісьмо першае" Данілы Баравіка, "Пасланне да землякоў-беларусаў" Шчырага беларуса і, нарэшце, два нумары падпольнага часопіса народавольніцкага напрамку "Гоман" (1884 год). У гэтых выданнях упершыню выразна сфармулявана і тэарэтычна абгрунтавана ідэя існавання самастойнай беларускай нацыі, раўнапраўнай ва ўсіх адносінах з іншымі этнасамі. "Шчыры беларус" і асабліва гоманаўцы падзялялі праграму і тактыку "Народнай волі", прапагандавалі ідэю неабходнасці самага цеснага ўзаемадзеяння беларускіх сацыялістаў і рэвалюцыянераў з партыяй "Народнай волі", бачылі ў гэтым гарантыю магчымасці перамогі сацыяльнай рэвалюцыі ў маштабах Расійскай імперыі, а таксама ажыццяўлення сваёй праграмы па нацыянальнаму пытанню: федэратыўнай самастойнай Беларусі ў сям'і іншых народаў. Яны выказалі самы рашучы пратэст супраць паланізацыі і русіфікацыі беларускага народа, уступілі ў адкрытую палеміку з Л.Ціхаміравым, які заявіў у адным з нумароў "Вестника народной воли" аб "штучнасці" беларускага руху. З сярэдзіны 80-х гадоў групы беларускіх народавольцаў былі разбіты рэпрэсіямі.

У першай палове 90-х гадоў ідэю існавання самастойнага беларускага этнасу сфармуляваў Ф.Багушэвіч (удзельнік паўстання 1863--1864 гадоў) у прадмове да свайго зборніка вершаў "Дудка беларуская", выдадзенага ў Кракаве і Познані пры дапамозе польскіх сяброў. Багушэвіч абудзіў да дзейнасці на нацыянальнай ніве новае пакаленне беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку Я.Купалу, Цётку (А.Пашкевіч), стваральнікаў і актыўных дзеячаў першай беларускай нацыянальнай партыі, якая ў 1902--1903 гадах выступіла пад назвай Беларуская рэвалюцыйная грамада (пазней -- Беларуская сацыялістычная грамада). Да іх ліку адносіліся Вацлаў Іваноўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, Франц Умястоўскі, Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі, Цётка (А.Пашкевіч) і інш. Амаль усе яны паходзілі з каталіцкай апалячанай беларускай шляхты і на пачатку сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці мелі самыя



цесныя сувязі і кантакты з дзеячамі Польскай партыі сацыялістычнай (ППС) і Літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі (ЛСДП). Можна лічыц… чесумненным, што на пры… зе гэтых партый грамада… выказаліся ў сваёй першай праграме (1903 года) за стварэнне незалежнай дэмакратычнай беларускай рэспублікі. Разам з тым яны праявілі самастойнасць палітычнага мыслен… уключыўшы ў сваю прагра… лозунг барацьбы за звяржэнне царскага самадзяржаўя агульнымі сіламі "з пралетарыятам усіх народаў Расійскага гасударства". Такога лозунга ў праграмах ППС і ЛСДП, як вядома, не было: гэтыя партыі ў дасягненні сваіх праграмных мэтаў не арыентаваліся на саюз з расійскім вызваленчым рухам. У другой партыйнай праграме тэзіс аб незалежнай дэмакратычнай рэспубліцы быў заменены патрабаваннем дзяржаўнай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай рэспублікі і культурна-нацыянальнай аўтаноміі для нацыянальных меншасцяў краю.

Восенню 1906 года БСГ змагла арганізаваць выданне ў Вільні першых легальных беларускіх газет "Наша доля" і "Наша ніва". У другой палове 1907 года ў сувязі з падаўленнем рэвалюцыі і наступленнем палітычнай рэакцыі Грамада спыніла нелегальную дзейнасць. Актыў яе згуртаваўся вакол "Нашай нівы", якая стала ідэйным кіраўніком і арганізатарам беларускага нацыянальнага руху ў 1907--1915 гадах. "Наша ніва" выхавала пакаленне нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, якая актыўна ўключылася ў барацьбу за беларускую дзяржаўнасць у новых гістарычных умовах, звязаных з першай сусветнай вайною і звяржэннем царызму ў Расіі ў сакавіку 1917 года.

Вайна прынесла новыя незлічоныя страты Беларусі і на нейкі час дэзарганізавала беларускі нацыянальны рух. Спынілася і выданне "Нашай нівы". Амаль палова беларускіх зямель (Віленшчына, Гродзеншчына, частка Міншчыны) у жніўні — верасні 1915 года была захоплена немцамі. Новыя ўлады не перашкаджалі ўзнікненню і дзейнасці мясцовых нацыянальных, у тым ліку беларускіх арганізацый -- дабрачынных (дапамогі ахвярам вайны), культурна-асветніцкіх і інш. Больш таго, беларуская мова была афіцыйна прызнана раўнапраўнай у грамадзянскіх адносінах з іншымі мовамі. К канцу 1915 года намецілася збліжэнне беларускіх, літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх арганізацый у Вільні на пэўнай палітычнай платформе: іх прадстаўнікі дамовіліся аб стварэнні канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага з мэтай дабіцца пры апоры на Германію аднаўлення агульнай літоўска-беларускай дзяржавы "на фундаменце незалежнасці Літвы і Беларусі". 19 снежня 1915 года была апублікавана адпаведная заява Часовай рады канфедэрацыі. Пазіцыі канфедэратаў удакладняліся ў адозве да грамадзян, выдадзенай Радай у лютым 1916 года. На літоўска-беларускіх землях, занятых нямецкімі войскамі, намячалася стварэнне незалежнай дзяржавы з соймам у Вільні, выбраным агульным, роўным, простым і тайным галасаваннем, з забеспячэннем поўных правоў усім нацыям у яе межах. Форму ўнутранага ладу і канстытуцыі дзяржавы павінен быў вызначыць установчы сойм, выбраны тым жа спосабам.

Новыя ідэі дзяржаўнага будаўніцтва на Беларусі ў чэрвені 1916 года распрацаваў А.Луцкевіч у рэфераце для Лазанскай канферэнцыі народаў Расіі. У ім канстатавалася немагчымасць незалежнага эканамічнага і дзяржаўна-палітычнага развіцця Беларусі пры ізаляцыі яе ад суседзяў -- Літвы, Латвіі і Украіны, тэрыторыя якіх перакрывала важнейшыя гандлёвыя шляхі з беларускіх зямель да Балтыйскага і Чорнага мораў (рэкі Нёман, Заходняя Дзвіна, Днепр, а таксама адпаведныя чыгункі). У сувязі з гэтым фармулявалася ідэя ўтварэння ў перспектыве -- пасля развалу Расійскай імперыі -- добраахвотнай і раўнапраўнай федэрацыі Беларусі з названымі краінамі-суседзямі, свайго роду "злучаных штатаў" ад Балтыйскага да Чорнага мораў. У якасці задачы-мінімум па нацыянальнаму пытанню выстаўлялася выкладзеная ў лютаўскай адозве Рады канфедэрацыі ВКЛ ідэя ўтварэння літоўска-беларускай дзяржавы "на фундаменце незалежнасці Літвы і Беларусі".

Ідэя Балта-Чарнаморскай федэрацыі Літвы, Беларусі, Латвіі і Украіны прапагандавалася ва універсале канфедэрацыі Беларускага народнага камітэта, Беларускай сацыял-дэмакратычнай работніцкай групы і Віленскага камітэта БСГ, выдадзеным у верасні 1917 года. Першапачатковым ядром яе павінна была стаць незалежная Беларуска-Літоўская дзяржава, якая ўключыла б усе беларускія і літоўскія землі з абодвух бакоў ваеннага фронту. Пры гэтым заяўлялася, што яна будзе заснавана на ўладзе народа, унутраным размежаванні аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель паводле роднай мовы жыхароў, поўных правах для ўсіх нацыянальнасцяў краю, прызнанні ўрадавых правоў за ўсімі мясцовымі мовамі і забеспячэнні школьнай навукі ў матчынай мове.

Ва ўсходняй Беларусі, а таксама ў гарадах Расіі, дзе пражывала шмат беларусаў (бежанцаў і інш.), дзейнасць БСГ аднавілася адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі.

**Міхась БІЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

**НА ЗДЫМКУ: М.ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ (1867--1934).**

**Працяг.**
**Пачатак у № 13.**



**Апошнія дні зімы. Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

# ДРОБЯЗІ, ЯКІЯ ПСУЮЦЬ ТВАР

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Шма… сылаў" -- гэта калі на мяшку напісана Беларусь, а ўнутры карэспандэнцыя для Багамскіх астравоў, Баку, Балгарыі і г. д. Вось і сёння мы атрымалі з ЗША мяшок, а ён для адрасатаў Германіі.

**-- У гэтым годзе зрэдку, а ў мінулым прыкладна 7 пісем з 10 прыходзілі ў рэдакцыю якраз са штэмпелем "Атрымана ў пашкоджаным выглядзе". Еўропа -- не Аўстралія. Тым больш, што пісьмы не пашматаны, а "пашкоджаны" менавіта на месцах склейвання. У мяне было ўражанне, што пісьмы чытае нехта трэці.**

-- Акрамя гэтай пячаткі, мы маем яшчэ некалькі: "Атрымана з слядамі клею" ці "Таможны дагляд". Згодна з выканаўчым рэгламентам, калі мы бачым, што ў лісце акрамя пісьмовага ўкладання ёсць нешта іншае, мы проста абавязаны накіраваць яго на таможны дагляд. Ён ажыццяўляецца на месцы ў прысутнасці работнікаў пошты. У выпадку, калі там ёсць тварнае ўкладанне, напрыклад, долары, мы ставім пячатку "Таможны дагляд", заклейваем пісьмо ў цэлафан і паведамляем адпраўшчыку аб канфіскацыі.

Дапускаю таксама, што паштовыя работнікі "па ўласнай ініцыятыве" могуць шукаць долары. Наогул яны могуць узяць "на кантроль" канкрэтнага чалавека або адрас. Мы імкнёмся кантраляваць, каб не злоўжывалі службовым становішчам. Гэта ўжо пытанні маралі і этыкі. Карыстаючыся выпадкам, я хацеў бы папярэдзіць усіх, хто дасылае долары сваякам у Беларусі ў лістах, не рабіць гэтага, а выкарыстоўваць легальныя шляхі перасылкі грошай. Мы канфіскуем шмат валюты. Пажадана таксама, каб дакументы, запрашэнні дасылалі заказной поштай, бо за звычайную карэспандэнцыю мы не адказваем.

Што тычыцца малых пакетаў, дык у мінулым годзе быў 100-працэнтны ручны дагляд, цяпер — не. Усе яны спачатку праходзяць рэнтгенаўскі дагляд, і, калі, згодна з ім, гэтыя пакеты не адпавядаюць карацінным ці ветэрынарным нормам, тады яны накіроўваюцца на ручны дагляд.

У гэты дзень з 84 малых пакетаў два былі накіраваны на ручны дагляд. З іх было канфіскавана насенне таматаў. Былі складзены акты. Як мне патлумачылі, яны будуць накіраваны як адпраўшчыкам, так і адрасатам. Увогуле, каб пракантраляваць работу пошты, яе супрацоўнікі мне прапанавалі адправіць кантрольныя пісьмы. Але мы можам праверыць працу пошты і іншым чынам. Я прапаную ўсім, хто некалі дасылаў нейкія рэчы ці долары па пошце і адрасаты іх не атрымалі, паведаміць у рэдакцыю, хто з іх атрымаў абвесткі, што рэчы былі канфіскаваны.

Скажу па шчырасці, у мяне была магчымасць пераканацца, што Мікалай Жакаў высокакваліфікаваны спецыяліст і добра ведае сваю справу. Але калі я яму паскардзілася, што ўжо тры гады ад пошты не магу дамагчыся, каб на адрасных аркушах, што клеяцца на нашай газеце пры дасылцы за мяжу, змянілі адзін толькі надпіс "ГП "Минская почта" на "ДП "Мінская пошта", ён мне патлумачыў, што згодна з міжнароднай канвенцыяй павінен быць правільна напісаны адрас атрымальніка, зваротны ж можа быць на дзяржаўнай, а руская мова цяпер мае такі статус.

Вярталася я праз вялікі цэх. З яго сцяны на мяне наязджала велізарная "Аўрора". Над крэйсерам месціўся ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі, а побач упрыгожаныя гваздзікамі словы: "В твой семидесятый юбилей тебе мы славу, Родина, поем, твое могущество крепим своим трудом!"

Якую "славу" і якой "Родине"?

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# ПРЫЯЗНІ ДАЎНЯЙ АДЗНАКІ

(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).

І вось паездка, наладжаная грамадскімі арганізацыямі і праведзеная метадам народнай дыпламатыі, адбылася, дзякуючы спонсарству Фонду Сораса, усебаковай падтрымцы Чэшскага пасольства ў Беларусі і пасла пана Душана Доскачэла, нашага Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, асабліва актыўнай дапамозе яго старшыні Арсена Ваніцкага і Ніны Івановай. Беларуская энцыклапедыя перадала ў якасці сувеніраў для чэшскіх сяброў і нашага пасольства некалькі экземпляраў энцыклапедычнага даведніка "Беларусь", а ЗБС "Бацькаўшчына" -- беларускія кнігі.

У нашу дэлегацыю, якую ўзначальвалі Ірына Шаблоўская і Ганна Сурмач, уваходзілі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі -- навукоўцы, артысты, мастакі, пісьменнікі, сярод якіх Васіль Быкаў, Радзім Гарэцкі, Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік, Арсен Ліс, Лідзія Савік, Георгій Галенчанка, Мікола Купава, Валерый Анісенка, Валерый Мазынскі, Аляксандр Сухоцкі, Галіна Дзягілева, Таццяна Мархель, Віктар Скорабагатаў, Алена Бундзелева, Ганна Каржанеўская, Таццяна Чанцова, Ніна Рашэтнікава, Надзея Батурыцкая, Ягор Фядзюшын, Валянціна Уласік, Наталля Зайцава, Валянціна Данекіна.. З Амерыкі прыехалі Зора і Вітаўт Кіпелі.

Прымаючы бок -- Чэшскае таварыства дружбы з народамі Усходу на чале з касманаўтам Уладзімірам Рэмекам, намеснікамі Яраславам Шлезарам, пані Здэнай Піпавай. Вялікае садзеянне аказвала Беларускае пасольства ў Чэхіі, Славянская бібліятэка і яе дырэктар Мілена Клімава, беларусісты ў Празе -- Вацлаў Жыдліцкі, Францішка Сокалава, Міласлаў Зіма, студэнты, якія вывучаюць беларускую мову.

Праграма, разлічаная на 5 дзён, была незвычайна насычанай і цікавай. Найперш знаёмства з горадам, непарушным сэрцам Прагі -- Градчанамі, Старым Местам. Ансамбль Пражскага Града, які раскінуўся на самым высокім месцы горада, уражвае не толькі велічнасцю, старажытнай архітэктурай, але і нацыянальнай адметнасцю, непаўторным харастзом кожнага палаца, будынка, царквы, сабора, якія ўзводзіліся на працягу многіх стагоддзяў і ніколі не разбураліся ніякімі ўладамі. Па Градчанах ідзеш, не паспяваючы захапляцца помнікамі, вуліцамі, адзнакамі старажытнасці на кожным кроку, цудоўнымі ўзорамі агароджаў, дрэвамі каралеўскага саду, які засноўваў наш Ф.Скарына. Агромністы, велічны каралеўскі палац, упрыгожаны нацыянальнай сімволікай, што не мяняецца адвеку, быццам атуляе сабор Святога Віта, які сваімі спічастымі вежамі пануе над горадам, бачны амаль з любой яго кропкі. Гэты кафедральны сабор -- неацэнны твор мастацтва, у ім захаваліся холад і цяпло многіх стагоддзяў, мудрасць пакаленняў, якія з любоўю ўзводзілі, аздаблялі яго. Тут захоўваюцца нацыянальныя святыні, адбываюцца набажэнствы, на якіх прысутнічаюць тысячы людзей, і іх малітвы, мусіць, чуе Бог -- так высока ў неба ўздымаецца сабор, быццам плыве разам з аблокамі, даносячы зямныя справы да Усявышняга. Пражскі Град — гэта сапраўды цэлы город, якім можна любавацца бясконца і бясконца расказваць пра яго хараство, незвычайна багатую і разнастайную гісторыю. З яго вышыні адкрываюцца цудоўныя краявіды чэшскай сталіцы -- Петшынска гара, на якой парк адпачынку, і пражская Эйфелева вежа, паменшаная копія парыжскай, пешаходны Карлаў



мост, упрыгожаны помнікамі і старажытнымі вежамі, чырвоныя дахі цэнтра старой Прагі, дзе забаронена ставіць высотныя будынкі, свята захоўваецца воблік стагоддзяў. І срэбныя хвалі магутнай і шырокай Влтавы, якая падзяляе горад на дзве часткі. Стары горад, як і Пражскі Град, Карлаў мост — самы цэнтр гэтай прыгажосці. Тут мноства вузкіх, звілістых вулачак, па якіх ідзеш, як па старонках далёкай гісторыі, так беражліва, з любоўю захоўваецца пражанамі кожны палац, дом, кожны камень на бруку. Стагоддзі суседнічаюць, жывуць у добрай згодзе, сведчаць пра вялікі талент, мудрасць народа, які стварыў і абараніў прыгажосць Прагі, якой любуецца ўвесь цывілізаваны свет. Незвычайна захапляе будынак старой ратушы, на вежы якой таленавіты майстар XIII стагоддзя ўстанавіў гадзінні[illegible]то бездакорна працуе і с[illegible]я. На яго дзейства збіраюцца людзі, каб паназіраць, уабраць у сябе адвечную філасофію чалавечага быцця: кожная гадзіна, пражытая чалавекам, асв[illegible]ена Богам, аднак напоўнен[illegible]арнасцю паўсядзённасці, яе цяжкімі, супярэчлівымі праблемамі, набліжае нас да смерці, якая нагадвае пра сябе званочкам, што звініць час ад часу і папярэджвае пра хуткаплыннасць, імгненнасць жыцця чалавека ў параўнанні з вечнасцю Сусвету, яго гісторыі. І сапраўды, быццам уваходзіш у эпоху гусітаў, ступіўшы літаральна два крокі ад ратушы да велічнага і трагічнага помніка Яну Гусу, ягоным паплечнікам на прасторнай плошчы Старога Места ў атуленні старажытных будынкаў, цэркваў, сабораў, прыгожых палацаў, якія сваімі вежамі, скульптурамі асабліва маляўніча выглядаюць у паўзмроку казачнай вячэрняй падсветкі, іх шпілі і вежы быццам знікаюць у зімовых гарадскіх нябёсах.

Гэтыя захапляючыя ўражанні ад горада дапоўніліся сустрэчамі з пражанамі, якія пачаліся па прыездзе ў Чэхію. Найперш наша афіцыйная дэлегацыя ўвечары 12 лютага была прынята ў беларускай амбасадзе паслом М.Вайцянковым і супрацоўнікамі пасольства. Назаўтра раніцай нас чакалі ў Чэшскім таварыстве дружбы з народамі Усходу. 13 лютага адбыўся скарынаўскі семінар, які адкрываў і вёў прафесар Карлавага універсітэта, перакладчык твораў беларускіх пісьменнікаў Вацлаў Жыдліцкі. Семінар праходзіў у славянскім аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі, славутым Клеменцінуме (былы старажытны кляштар св. Клемента), які займае цэлы квартал Старога горада непадалёку ад Карлавага моста. Гэта агромністы будынак з многімі чытальнымі, навукова-лекцыйнымі заламі, прасторнымі галерэямі, багатым кнігасховішчам. Тут некалі займаліся беларускія студэнты, чытаў лекцыі Тамаш Грыб. Побач з Клеменцінумам знаходзіцца будынак друкарні Севярына, які арандаваў для выдання кніг Францішак Скарына. Для нас, беларусаў, Прага найбольш асветлена яго імем. Вялікі асветнік, вучоны-энцыклапедыст менавіта гэты горад выбраў для ажыццяўлення справы свайго жыцця, тут здзейсніў свой духоўны подзвіг, выдаўшы 23 кнігі Бібліі на беларускай мове (1517--1519), якія сталі ўпоравень з еўрапейскімі выданнямі таго часу, садзейнічалі высокаму прэстыжу беларускай мовы, што мела вялікае значэнне для развіцця асветы, літаратуры, наогул адраджэння на Беларусі. Другі перыяд знаходжання Ф.Скарыны ў Празе (1535--1539) звязаны з яго пасадай вучонага-садоўніка ў каралеўскім Батанічным садзе, дзе ён пачаў працаваць па запрашэнню чэшскага караля Фердынанда І. Пра гэтыя і іншыя звесткі з дзейнасці нашага асветніка-гуманіста гаварылі беларускія і чэшскія вучоныя-скарыністы (Г.Галенчанка, пані Францішка Сокалава — укладальніца кнігі "Францішак Скарына ў творах чэшскіх славістаў").

Пра значэнне Ф.Скарыны для Беларусі, для развіцця ўзаемасувязей чэшскага і беларускага народаў гаварыў у сваёй



прамове наш пасол М.Вайцянкоў, падкрэсліўшы, што супрацоўнікамі пасольства шмат зроблена, праведзены перамовы з чэшскім урадам наконт устанаўлення помніка Ф.Скарыне ў Празе.

У сваіх кароткіх выступленнях Васіль Быкаў і Радзім Гарэцкі адзначылі вялікае значэнне прыезду беларусаў для ўзаемадзеяння дзвюх славянскіх культур, што асаблівым аб'ядноўваючым момантам з'яўляецца Ф.Скарына, які да гэтага часу нясе свет беларусам. Яны выказалі шчырую падзяку гасцінным гаспадарам, блізкай і дарагой нам Празе і веру ў тое, што і беларусы ўвойдуць некалі ў еўрапейскі дом, дзе даўно жывуць чэхі.

Вольга Іпатава ў эмацыянальна-паэтычным выступленні падкрэсліла, што Ф.Скарына і сёння жывіць крыніцу духу беларусаў. "Гістарычнае ядро нашай дзяржавы — Е.Полацкая, С.Полацкі, Ф.Скарына — усе з Полацка — імёны еўрапейскага значэння, і яны не адзіныя ў багатай і цікавай беларускай гісторыі. Сёння ж абрысы нашай дзяржавы невыразныя, нявызначаныя, зменены гістарычныя нацыянальныя сімвалы. Гістарычнае забыццё нашага народа цяжкае, многія беларусы не ведаюць імёнаў сваіх славутых продкаў. Нашчадак Скарыны -- сённяшні асветнік — прабіваецца да людзей з большай цяжкасцю, чым некалі Ф.Скарына. Чэхія, чым магла, дапамагала і нам, над ёю заўсёды лунала духоўнасць, і гэты духоўны покрыў над Чэхіяй складаецца таксама са спраў нашых славутых беларусаў. Некалі Ларыса Геніюш сказала мне: "Дзіця, ты не ведаеш, што такое сапраўдная дэмакратыя, а я ёй вучылася ў Празе". Рэаліі парадаксальныя: Скарына быў асветнікам у XVI стагоддзі, а мы -- сённяшнія беларусы-творцы -- павінны працягваць яго справу цяпер. Праўдзівая беларуская гісторыя пачала вяртацца нядаўна. Хоць жалезная заслона пала, аднак праблемы засталіся. І добра, што мы можам цяпер прыязджаць у Прагу, адчуваць роднаснасць нашых культур, мовы, гісторыі, садзейнічаць працэсам нацыянальнага адраджэння"...

Са змястоўнага і, як заўсёды, цікавага выступлення Вітаўта Кіпеля -- дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, прысутныя даведаліся пра ўшанаванне памяці Ф.Скарыны беларусамі-эмігрантамі: "Беларускі інстытут навукі і мастацтва пачаўся з прац пра Ф.Скарыну. На Беларусі гэтыя даследаванні былі спынены з 1928 года. Мы пачалі з пошукаў у Падуі, Даніі, Маскве, збіралі дакументы пра Скарыну ў Празе, перапісваліся з рускім вучоным Фляроўскім, які шмат зрабіў для даследавання жыцця і творчасці Ф.Скарыны. Доктар Тумаш, які засноўваў БІНіМ, апублікаваў мност[illegible]прац пра Ф.Скарыну, цяпер [illegible]шым інстытутам выдадзена бібліяграфія прац пра вялікага асветніка, у якой каля трох тысяч назваў. Добра, што і на Беларусі адрадзілася Скарыніяна. Цяпер мы разам працуем над перыядычнай бібліяграфіяй Скарыніяны — вучоныя на Беларусі збіраюць тое, што друкуецца пра Скарыну на Бацькаўшчыне і ў блізкім замежжы, мы — і на далёкім. Мы маем сувязі і навуковыя дачыненні з многімі навукоўцамі, усімі, хто займаецца Скарынам, выдаём "Запісы" нашага інстытута, 23-ты нумар якіх цалкам прысвечаны Ф.Скарыне".

На скарынінскім семінары прысутнічала не толькі беларуская дэлегацыя, але і супрацоўнікі беларускага пасольства, журналісты радыё "Свабода", чэшскія вучоныя-беларусісты, прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый, студэнты, чытачы Клеменцінума. Падчас семінара была разгорнута выстава беларускіх кніг, якія мы прывезлі ў Прагу. Многія з іх былі перададзены ў дар Славянскаму аддзелу Нацыянальнай бібліятэкі.

Наступны дзень быў прысвечаны творчым сустрэчам. Асабліва шмат запрашэнняў было ў В.Быкава, які, дарэчы, упершыню прыехаў у Прагу. Ён разам з акадэмікам Р.Гарэцкім і прафесарам Ірынай Шаблоўскай быў запрошаны ў Міністэрства замежных спраў Чэшскай рэспублікі, пабывалі затым у Акадэміі навук, дзе была арганізавана прэс-канферэнцыя, у якой прымаў удзел дырэктар аддзялення культурных і навуковых сувязей Іржы Кубічак, які, калі зайшла размова пра адкрыццё помніка Ф.Скарыне ў Празе, выказаў згоду і гатоўнасць усяляк дапамагаць у гэтай важнай справе. Адбылася таксама сустрэча В.Быкава і Р.Гарэцкага ў чэшскім Пэн-клубе, рэдакцыі газеты "Днес". І ўсюды з чэшскага боку ўзнікала шмат пытанняў: пра Чарнобыль, беларускую мову, адносіны паміж рэспублікамі былога СССР, наогул пра становішча на Беларусі, пра мастацтва і літаратуру, творчыя планы В.Быкава і інш.

На сустрэчу ў Саюзе жанчын Чэхіі былі запрошаны Вольга Іпатава і Лідзія Савік. Пані Здэна Піпава разам з супрацоўніцай беларускага пасольства Валянцінай Кавалеўскай прадставілі іх старшыні Чэшскага Саюза жанчын пані Здэне Гойна, вельмі прыгожай эрудзіраванай жанчыне, доктару навук, якая расказала пра заснаванне (1967) і дзейнасць гэтай жаночай арганізацыі і выказала жаданне наладзіць кантакты з беларускімі жаночымі арганізацыямі, пазнаёміцца з нашымі праектамі, скіраванымі на дапамогу жанчыне ў сучасным складаным свеце.

Ганна Сурмач, Ірына Шаблоўская, Ніна Рашэтнікава, Валянціна Данекіна наведалі Славянскі інстытут Чэшскай акадэміі навук, мелі размову з супрацоўніцай інстытута Любай Белашэўскай, якая з'яўляецца адказным сакратаром часопіса "Росіка". Часопіс друкуе матэрыялы па беларусістыцы, русістыцы, украіністыцы. На жаль, беларускія навукоўцы мала дасылаюць туды сваіх прац.

Цікавіліся члены нашай дэлегацыі і працай чэшскіх гімназій, пытаннямі адукацыі. Дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Ніна Рашэтнікава і настаўніца чэшскай мовы Беларускага гуманітарнага ліцэя Наталля Зайцава былі запрошаны ў Педагагічную акадэмію, пабывалі на занятках па чэшскай літаратуры ў 10 класе гімназіі, дзе ўрок вяла Дана Марцінкова. Адбыўся абмен кнігамі, метадычнай літаратурай, сувенірамі.

Цэнтральнай падзеяй візіту была вечарына "Беларусы ў Празе", якая праходзіла ў цудоўным раёне Прагі, дзе знаходзяцца замежныя пасольствы і на рэспектабельных, багатых пасольскіх асабняках можна было пабачыць сцягі шматлікіх краін свету. Была разгорнута выстава "Беларуска-чэшскія сувязі", падрыхтаваная Дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, які прадстаўляла яго супрацоўніца Валянціна Данекіна. З вялікай зацікаўленасцю разглядалі прысутныя Скарынінскую біблію, выданні беларускіх пісьменнікаў на чэшскай мове, стэнды Ларысы Геніюш, Міхася Забэйды-Суміцкага, матэрыялы па беларускай эміграцыі, БНР, беларускія кнігі, выдадзеныя ў апошнія гады.

Незвычайную цікавасць выклікала пекарская скульптурная кампазіцыя "Вясельны стол", створаная рукамі таленавітай беларускай жанчыны са Стоўбцаў Валянціны Уласік. (Яна пакуль адзіная ў Беларусі носіць званне "Народны майстар пекарскай скульптуры").

**Лідзія САВІК,**
**сакратар Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

**НА ЗДЫМКАХ: Васіль БЫКАЎ і Вітаўт КІПЕЛЬ; беларусы ў рэдакцыі радыё "СВАБОДА" ў Празе.**

**(Заканчэнне будзе).**

## НЕЗАЛЕЖНАЕ РАССЛЕДАВАННЕ

# РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

Вось такія скарбы сабраў Зямкевіч (нездарма М.Гарэцкі яшчэ задоўга да Хвалевіка адзначыў: "Маець вялікае багацце"). Як страсны калекцыянер пры збіранні кніжных і рукапісных рарытэтаў наш герой не грэбаваў нават недалікатнымі сродкамі. Даўно падмечана, што ад неадольнага жадання калекцыянера валодаць аблюбаваным экспанатам і да граху недалёка. Такім "грэшнікам" (ці хутчэй нават без двукосся) быў і Зямкевіч. Расказваючы ў 1928 годзе ў пісьме да Л.Клейнбарта пра прапажу сваіх рукапісаў і кніг у акупаваным кайзераўцамі Мінску, тактоўны, нешматслоўны Я.Купала пісаў, напрыклад: "И вот я думаю, между нами говоря, не попало ли это в руки Земкевича..." (Купала Я. Зб. тв. у 7-мі т. Мн., 1976. Т. 7. С. 428). П.Мядзёлка ўспамінала ў прыватным пісьме пра лёс неацэннай рэліквіі -- паасобніка "Паўлінкі", падараванага ёй Купалам з паэтычным прысвячэннем як першай выканальніцы загалоўнай ролі: "А той літаграфскі экземпляр "Паўлінкі" з прысвечаным мне вершам у 32 радкі выпрасіў у мяне Рамуальд Зямкевіч у Лодзі ў 1921 годзе, каб перафатаграфаваць яго, выпрасіў на дзве гадзіны і знік з маіх вачэй разам з гэтым экземплярам" (ЛіМ, 3.7.1992; гісторыя ўспамінаецца і ў "Мядзёлчыных "Сцежках жыцця"). Сёння тэкст верша нам так і невядомы.

М.Гарэцкі паведамляў у верасні таго ж 1921 года Я.Карскаму з Вільні: "Р.Зямкевіч ездзіць нейкім інжынерам, часам працуе ў Федароўскага, усё збірае, а нічому ходу не дае і наракае на ўсіх нас" (Гарэцкі М. Творы. Мн., 1990. С. 400). Трохі пазней Гарэцкі паведаміў Карскаму таксама пра лёс кнігазбору, пакінутага шаноўным прафесарам у Варшаве пры эвакуацыі: "Ад грам[адзяніна] Зямкевіча (ён меўся Вам напісаць) чуў я, што многа кніжак з Вашай асабістай бібліятэкі трапіла ўжо ў рукі варшаўскіх букіністаў; некаторыя выкупіў ён". Як бачым, і тут наш герой не ўпусціў свайго.

Трэба сказаць, што Зямкевіч меў цяжкі, няўжыўчывы характар і многім не падабаўся. Не адзін раз чуў пра гэта ад шанаванай усімі Зоські Верас, якая ведала Зямкевіча яшчэ па дарэвалюцыйнай Варшаве, ды і потым з ім не адзін раз спатыкалася. У пісьме да мяне яна расказвала:

"Ужо першае знаёмства з ім у Варшаве ў 1913 годзе насьцярожыла.

Жменька беларусаў, якія ў той час жылі ў Варшаве (я была там тады на курсах) кожную нядзелю езьдзіла да сям'і Сталыгваў (беларусы) у блізкае Ажарова. Ехалася мінут пятнаццаць, так што мы нават не заходзілі ў вагон, а стаялі каля дзьвярэй. Вось раз і Р.З. паехаў разам. У дарозе мы ўсе "знаёміліся" паміж сабой, расказваючы хто скуль... Г.Леўчык -- са Слоніма, Я.Гапановіч -- з Будслава, я з-пад Гродна -- з Сакольшчыны і г.д. Р.З. маўчыць. Я пытаюся: "А Вы, пан Зямкевіч, адкуль?" Ён на гэта -- "мая бацькаўшчына там, дзе мне добра"... Павеяла нейкім холадам і недаверам".

Канешне, Зямкевіч толькі пажартаваў, прыняў нейкую штучную позу перад мілай, шмат маладзейшай за яго паненкай. Але жарт быў вельмі няўдалы, калі ўлічыць, што паненка якраз шукала сваю радзіму і радавалася, што знайшла яе часцінку сярод сваіх землякоў на чужыне.

Язэпу Дылу Зямкевіч запомніўся як "хвалько": "...прызнацца, любіў шыкнуць "многаведаннем"... (пісьмо да Я.Саламевіча /Полымя, 1990, N 6. С. 238).

Разважлівая Паўліна Мядзёлка, нягледзячы на свой асабісты негатыўны вопыт кантактаў з Зямкевічам, адзначала і плюсы, і мінусы, старалася быць гранічна аб'ектыўнай:

"У рэдакцыі "Нашай нівы" я часта бачыла Рамуальда Зямкевіча. Гэта быў чалавек гадоў, мабыць, трыццаці, сярэдняга росту, з рыжаватымі рэдкімі вусікамі, у форменнай тужурцы з меднымі гузікамі (яго мы называлі вечным студэнтам). Ён добра гаварыў па-беларуску, аднак з моцным польскім акцэнтам. У "Нашай ніве" даволі часта змяшчаліся яго артыкулы. Яго ацанілі як вядомага бібліёграфа, гісторыка, крытыка. Ён быў нястомным збіральнікам калекцый народнага мастацтва, літаратурных аўтографаў.

І вось гэты самы Зямкевіч, -- працягвае Мядзёлка, -- не паладзіў з Іванам Луцкевічам. Сварка паміж імі дайшла да поўнага разрыву Зямкевіча з "Нашай нівай". А прычынай было тое, што Іван Луцкевіч і Рамуальд Зямкевіч не падзялілі паміж сабой сабраных экспанатаў. Адзін аднаго абвінавачвалі ў ашуканстве, у прысваенні чужых экспанатаў. Хто ж быў правы, а хто вінаваты, сказаць цяжка" (Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. С. 72--73).

Маем і дакументальныя доказы таго, што Мядзёлка дакладна ацэньвала сітуацыю. У пісьме 1912 года Зямкевіч наракаў (з польскай):

"Працаваў у рэдакцыі "Нівы" 6 месяцаў і, канчаткова разышоўшыся ў поглядах, пакінуў яе. Бо не магу ісці разам з людзьмі, якія, як напрыклад, п. Ян Луцкевіч, паступаюць неэтычна (штучкі: прысваенне золаталітага слуцкага пояса, які належаў пану Кярсноўскаму з Наваградчыны,.. а таксама гучная гісторыя ў Полацку, у касцёле, з заменай фламандскага абраза-прымітыву на яго копію).

Увогуле стасункі і некаторыя людзі, хоць і не ўсе, з "Нашай нівы" не надта добра выглядаюць пры больш глыбокім знаёмстве".

Вядома ж, на настрой і ацэнкі Зямкевіча моцна ўплывала яго рэўнасць да збіральніцкіх поспехаў выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння Івана Луцкевіча, якому з цягам часу ўдалося заснаваць у Вільні цудоўны Беларускі музей. (Зазначым у дужках, што ў адрозненне ад збораў Зямкевіча час захаваў калі не большасць, дык значную частку экспанатаў Беларускага музея ў Вільні, хоць яны пасля апошняй вайны аказаліся рассеянымі па многіх музеях, архівах і бібліятэках Вільні-Вільнюса і Мінска).

Адмоўныя рысы характару Зямкевіча нярэдка ўскладнялі яго адносіны з дзеячамі беларускага нацыянальнага руху.

Вялікі розглас атрымала яго вострая сутычка 1927--1928 гадоў з нашаніўцам Ф.Умястоўскім, вядомым у беларускай літаратуры як "Дзядзька Пранук". (Нагадаем, што ў 1940 годзе Умястоўскі як палонны афіцэр польскай арміі загінуў ад рук сталінскіх апрычнікаў у Катыні. Нядаўна пра яго ўспамінала Валянціна Коўтун у цікавым палымянскім літаратурна-архіўным эсэ "Шчыру ахвярнасць клаў я для краю..."). У 20-х гадах Дзядзька Пранук займаў не лепшую пазіцыю падтрымкі санацыйнай Польшчы, "праславіўся" згодніцтвам з польскімі ўладамі. У сваёй паланафільскай газеце "Беларускі дзень" у канцы 1927 года (тады якраз разгортвалася перадвыбарная кампанія) нагадаў пра свае заслугі перад беларускім рухам, адзначыўшы, што быў у свой час рэдактарам-выдаўцом першай беларускай газеты "Наша доля" і пацярпеў за гэта ад царскіх уладаў.

У легальнай лева-дэмакратычнай газеце "Да працы" (яна ўсяляк праследавалася ўладамі і раз-пораз мяняла сваю назву, у той момант называлася "Права працы") на яго адразу ж наляцеў нехта Саўка Барывой, які безапеляцыйна назваў Умястоўскага самазванцам і абвінаваціў у бессаромнай хлусні. Працытуем:

"Памятаючы добра гэтыя часы (часы зараджэння беларускага легальнага друку. -- **Г.К.**), ніяк не можам згадзіцца на гэтую заяву, якая абсалютна пярэчыць праўдзе.

Галоўным ініцыятарам выданьня беларускай газэты ў час рэвалюцыі 1905--1907 гадоў быў сьв. памяці Іван Луцкевіч. Рэдактары, якія падпісвалі газэту, былі фікцыйнымі, газэту выдаваў калегіяльны кружок, зложаны з братоў Луцкевічаў, Цёткі, Каганца, Янкі Окліча, Тукеркеса ды З.Вольскага.

Са слоў Ф.Умястоўскага выходзіць, што ён за справу "Нашае Долі" быў арыштаваны і нават сасланы. Дзіўная рэч: у друкаваных матар'ялах да гісторыі "Нашае Долі", узятых з царска-жандармскіх архіваў ды друкаваных ужо ў месячніку "Полымя", нічога аб рэдактарстве, арышце і ссылцы Ф.Умястоўскага не ўспамінаецца. З другога боку -- польскія пэпэсы, старыя віленскія дзеячы, апавядаюць, што Ф.Умястоўскі належаў да партыі ППС, лічыў сябе заўсёды палякам і за партыйныя справы (польскія!) адцярпеў кару. З гэтых то кругоў віленскіх ППС-аў выйшла пратэкцыя і грошы для Ф.Умястоўскага, каб выдаваў полёнофільскую газэту. Гэта было ўжо і раней у 1919 годзе, калі яму запрапанавалі выдаваньне полёнофільскай беларускай часопісі, якую ён разам з Алехновічам пачаў выдаваць пад наз[вай] "Беларускае Жыцьцё", у каторым сам не працаваў, а іграў толькі ролю "мэцэната".

У справе рэдактарства "Нашае Долі", мог бы рашуча сказаць інж. Р.Зямкевіч. Мае ён найбагацейшы гістарычны беларускі архіў, у каторы ўвайшла і частка архіву "Нашае Долі", пераданая яму ў Варшаве Тукеркесам, калі той нелегальна, пры помачы палітычных дзеячоў у Варшаве, перабіраўся за граніцу".

Просім прабачэння за доўгую цытату -- яна добра перадае методыку спрэчкі, напал страсцей.

На адказ Умястоўскага ў "Беларускім дні" "Праўда аб рэдагаванні "Нашай долі" Саўка Барывой публікуе новы разлютаваны опус у сваёй газеце (пасля чарговай забароны яна называлася "Думка працы"). У матэрыяле прыводзіліся старанна падабраныя падрабязныя бібліяграфічныя звесткі з гісторыі "Нашай долі".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 12—13.**

# ВЫХАВАННЕ НА ВЕКАВЫХ ТРАДЫЦЫЯХ



**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Перад адкрыццём ва універсітэце культуры спецыялізацыі "Народныя рамёствы" група нашых выкладчыкаў вывучала патрэбы спецыялістаў у гэтай галіне. Былі падрыхтаваны лісты-анкеты па вызначанай праблеме і разасланы больш чым у сорак раённых і абласных устаноў культуры. Вынікі аказаліся цікавымі і ў большасці выпадкаў нечаканымі. Бадай што, кожны раён запрасіў 4-5 спецыялістаў такога профілю. Даныя сведчылі аб тэрміновай неабходнасці рыхтаваць кадры, якія б прафесійна, з веданнем справы заняліся развіццём традыцыйнага і сучаснага народнага мастацтва

Для таго, каб спецыялізацыя ішла паспяхова, патрэбны былі матэрыяльныя і тэхнічныя ўмовы, інакш кажучы -- майстэрні з неабходным для кожнага віду творчасці абсталяваннем і сыравінай. Сапраўды, з цягам часу ва універсітэце стварылі вучэбныя майстэрні малюнка, акварэлі, алейнага жывапісу, габелена, ткацтва, ганчарства, саломапляцення і інш. На выкладчыцкую работу былі запрошаны народныя майстры, што атрымалі вядомасць у рэспубліцы, работы якіх дэманстраваліся на шматлікіх выставах. Трэба адзначыць, што амаль усе выкладчыкі на гэтым участку -- члены Саюза мастакоў Беларусі.

На спецыялізацыю "Народныя рамёствы" перш за ўсё прыходзіць моладзь, якая абавязкова мае пачатковую мастацкую адукацыю -- мастацкія школы, вучылішчы ці вучылішчы прафесійна-тэхнічныя з накірункам дэкаратыўна-прыкладнога характару. Абітурыентаў без папярэдняй падрыхтоўкі амаль не бывае па адной простай прычыне: яны не вытрымаюць канкурэнцыі на ўступных экзаменах, ды і вучэбныя праграмы рыхтуюцца з улікам таго, што паступаючыя ўжо маюць спецыяльныя веды і навыкі. Але трэба адразу зрабіць агаворку: на спецыялізацыі не рыхтуюць спецыялістаў акадэмічнага накірунку -- жывапісцаў, графікаў, скульптараў. Гэта прэрагатыва Акадэміі мастацтваў. Хаця і ў нас у працэсе навучання вялікая ўвага надаецца малюнку, кампазіцыі, колеразнаўству, пластанатоміі — тым прадметам, якія фарміруюць творчую асобу, развіваюць мастакоўскае мысленне.

У нас студэнты вучацца саломапляценню, ганчарству, ткацтву і габелену, дэкаратыўнаму роспісу. З гэтага навучальнага года ў вучэбны працэс уведзены мастацкая апрацоўка дрэва і пляценне з лазы. На спецкурсах і факультатывах студэнты займаюцца вышыўкай, вязаннем, камп'ютэрнай графікай. Апошняя дае магчымасць з дапамогай тэхнічных сродкаў мадэліраваць і канструяваць арнаментальна-кампазіцыйныя варыянты для ткацтва, вышыўкі, ажыццяўляць пошукі аб'ёмна-пластычнага накірунку ў кераміцы, разьбе па дрэву і г. д. Паколькі наша ўстанова — універсітэт, вучэбныя планы прадугледжваюць агульнагуманітарныя, культуралагічныя і псіхолага-педагагічныя дысцыпліны. Выпускнікі незалежна ад спецыяльнасцей і спецыялізацый павінны валодаць ведамі менавіта універсітэцкага маштабу. Яны будучыя і выкладчыкі, і навукоўцы, і кіраўнікі творчых калектываў, і арганізатары ў той сферы дзейнасці, дзеля якой і рыхтуе іх навучальная ўстанова. Такі падыход у падрыхтоўцы кадраў спецыялістаў дае шырокія магчымасці выкарыстання іх прафесійных ведаў на практыцы, у жыцці.

У мінулым годзе адбыўся першы выпуск спецыялістаў. Прайшла абарона дыпломных работ па розных відах традыцыйнага і сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Такая падзея стала святам і вынікам педагагічнай і вучэбна-творчай працы ўсяго калектыву кафедры народных рамёстваў. Рэцэнзентамі дыпломных работ, іх незалежнымі апанентамі з'яўляліся вядомыя ў рэспубліцы навукоўцы -- прафесар М. Раманюк, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства Я. Сахута, кандыдат мастацтвазнаўства М. Яніцкая і інш. У цэлым дыпломным работам выпускнікоў яны далі высокую ацэнку. Асобна адзначана дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіяй дыпломная работа па саломапляценню Алены Сманцар "Дэкаратыўны куфар". Зроблены ў традыцыях беларускага народнага саломапляцення (накшталт царскіх варот), ён пакарыў і камісію, і ўсіх, хто прысутнічаў у зале, сваёй незвычайнай прыгажосцю і высокім майстэрствам.

На абароне дыпломных праектаў высокую ацэнку дзяржаўнай камісіі атрымалі работы Іны Дзенісюк ("Подых часу", кераміка), Людмілы Хацкевіч ("Зямля мая", габелен) і іншыя. Абарона дыпломных работ прайшла паспяхова, цікава.

**НА ЗДЫМКУ: прагляд работ па кампазіцыі студэнтаў 3-га курса універсітэта. Педагог Л.ШЧАСНАЯ.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

## СА СЛЫННАГА РОДУ СНІТКАЎ

# ПАНСКАЯ ДАЧКА



Суровы, вельмі суровы да Беларусі і яе люду быў лёс. Гэтулькі на яе абшарах за тысячагоддзі глуму наробленай, гэтулькі людзей без пары пераведзена. Але наколькі гэты лёс суровы, нагэтулькі і спагадны. Пры ўсёй жорсткасці ён усё ж пакідае нам, каб зусім наша памяць не звялася, не рассеялася, не згубілася, па адным-два патрыярхі з кожнай эпохі.

Не так даўно яшчэ жыла ўсім вядомая і незабыўная Зоська Верас. Яна распавядала нам напрыканцы XX стагоддзя пра нацыянальны і асветніцкі рух на пачатку веку. Лёс, гісторыя, мабыць, наўмысна ашанавалі іе для нас, каб яна магла нам расказаць праўду пра адраджэнне беларускай культуры ў нашаніўскую і пазнейшую пару.

Мусіць, з той жа нагоды ашанаваў нам лёс і яшчэ адну доўгажыхарку -- Веру Андрэеўну Ніжанкоўскую. А Снітка Андрэй, яе бацька, як вядома, быў слынным археолагам, адным з заснавальнікаў царкоўна-археалагічнага музея ў Мінску. Ён жа быў і абшарнікам. Меў маёнтак пад Радашкавічамі. Яму належала і шмат іншых дробных фальваркаў. Сярод іх --Гайдукоўка, Гуя.

Вось у гэтай сям'і і нарадзілася Вера Снітка. Здарылася гэта 8-га лютага (старога стылю) 1901 года. Па нашым, цяперашнім календары гэта 21 лютага. Сёлета ёй дзевяноста пяць. Калі б чалавек за такі век і нічога не зрабіў асабліва значнага і нічым ягонае жыццё не было прыкметнае, то ўсё роўна была цікавасць да такога жыцця пільная. А тут не толькі шмат пражыта, але і шмат перажыта. Дзевяноста пяць пражыць -- гэта не блін спячы.

...Маленства яе было вясёлае, бесклапотнае, пры дастатку. Жыла сабе, што матылёк на лузе. У сям'і была самая меншая, адзіная дзяўчынка. Ставала ёй пяшчоты і ўвагі -- і ад таты, і ад мамы, і ад братоў. Іх было двое -- Усевалад і Андрэй.

Лашчыў і песціў яе і дзядзька Уласаў. Так, так, той самы Уласаў, што на заранку XX стагоддзя выдаваў "Нашу ніву". У бацькоўскім доме ёй пашчасціла яшчэ дзяўчынкай на свае вочы пабачыць шмат цікавых людзей. Сярод іх жаданым госцем у Сніткаў быў вядомы мовазнаўца Аляксей Шахматаў. Ведала яна і Людаміра Рагоўскага -- у Сніткавым кальсбэрскім доме на сніткаўскім фартэпіяна ён упершыню паказваў сваю песню "А хто там ідзе?" на Купалавы словы.

Незабыўнае ўражанне зрабіў на Веру Снітку, таксама яшчэ дзяўчынку, і вядомы кітаязнаўца Васіль Аляксееў. Ён таксама хаўрусаваў з Сніткамі. Прыязджаў да іх ажно з Пецярбурга. А яшчэ Сніткі былі ў сваяцтве з Кукальнікамі, прынамсі з вядомым прафесарам з Віленскага універсітэта, а затым віленскім цэнзарам Паўлам Кукальнікам. І з Жыркевічамі. А Аляксандр Жыркевіч -- гэта вайсковы юрыст і літаратар. А Жыркевіч знаўся з Рэпіным і Львом Талстым.



Цяжка Веры Андрэеўне згадаць усіх, хто блізка б[illegible]а іхняй сям'і, хто мог быць [illegible], калі б не першая сусветная вайна. Яна выгнала Сніткаў з Беларусі на Украіну. Кінулі-рынулі ўсё і паехалі, як ёсць, далей ад вайны.

Вера Андрэеўна вучылас[illegible]рад гэтым у славутым Пецярбургскім інстытуце высакародных дзяўчат. Але нядоўга -- з паўгода. "У 1917 годзе, -- згадвае Вера Андрэеўна, -- нас выгналі з Смольнага бальшавікі". Давучылася на Доне ў Новачаркаску. Сям'я жыла ў Глухаве, а яна ў Новачаркаску. Затым была бібліятэкаркай. На Беларусь вярнулася ў 1920 годзе. Беларусь была ўжо падзелена на Усходнюю -- БССР і Заходнюю -- крэсы.

У 1923 годзе ў яе жыцці адбылася вялікая падзея. Яна стала жонкаю вядомага вучонага і грамадскага дзеяча, аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча... Але сямейнае шчасце было нядоўгім. Браніслаў Тарашкевіч, заняты палітычным змаганнем, трапіў у дзяржаўную няміласць польскай улады, яго арыштавалі і зрабілі вязнем розных астрогаў. Затым польская ўлада памяняла яго з савецкай на яшчэ аднаго пакутніка-беларуса -- Францішка Аляхновіча.

Веры Андрэеўне давялося адной гадаваць сына, іхнюю агульную радасць -- Славіка. Але і яго, непаўналетняга, забрала апошняя вайна. Юнаком-партызанам ён загінуў у 1944 годзе, 15-га чэрвеня, незадоўга да вызвалення. Загінуў сярод лета, калі ўсё наўкола цвіло і квітнела, прагла жыцця і дарыла жыццё. Кажуць, Славік натрапіў на засаду... Гэта было дзесь пад Бягомлем, паблізу возера Палік.

Страты, страты... Незваротныя страты... Сардэчны боль і шчымлівасць...

Пятнаццатага чэрвеня для Веры Андрэеўны -- наогул дата фатальная. Пятнаццатага загінуў брат -- яшчэ на першай імперыялістычнай. Пятнаццатага памерла мама... Пятнаццатага загінуў і адзіны сын.

Андрэй Снітка таксама не вярнуўся на Беларусь. Ён так і застаўся навекі вечныя ў Глухаве. У 1920 годзе не вытрымала сэрца. Будучы выкладчыкам Віленскай гімназіі, якая вайной пераехала ў Глухаў, ён маляваў на падлозе дэкарацыі для спектакля. Дэкарацыі былі вялікія. Малюючы, даводзілася рабіць намаганні, поўзаць па падлозе. Якраз у гэты момант пачаўся сардэчны прыступ -- і ён быў фатальны. Нават магілкі яго не засталося. У тое месца, дзе была магілка, патрапіла бомба і ўсё разнесла ўшчэнт. І ніякага следу няма.

"Як прыходзіць 15 чэрвеня, дык мы з Ірынай маўчым", -- кажа Вера Андрэеўна.

З Верай Андрэеўнай я пазнаёміўся гадоў з дваццаць таму. Была яна тады яшчэ шмат маладзейшая і значна больш рухавая. Прыгадваецца, пры першай стрэчы заспеў яе ў агародзе. Яна палола грады. Убачыўшы мяне, перапыніла занятак, абтрусіла зямлю з рук і сказала:

-- Вось бачыце, чым займаецца панская дачка...

Мушу прызнацца: я не адразу асэнсаваў гэтыя словы, не адразу зразумеў іх: перада мною і сапраўды была адухоўленая прыродай і інтэлектам асоба. Але ж гэта было нормай для савецкага інтэлігента -- і ў зямлі корпацца, і якойсь службы трымацца. І толькі, калі пачаў бліжэй знаёміцца, зразумеў, што спадарыня Вера -- сапраўды панская дачка.

...Вось яна ў дабротным фэтончыку разам з сваёй сям'ёй. На ёй лёгкая сукенка... Лёгкі летні, з той пары, капялюшык. Дый яшчэ пад белым парасонікам. Уся сямейка ўрачыста выбралася ці выбіраецца на прагулку...

А вось яшч[illegible]ымак. Сніткі і іхнія госці верхам на добрых конях... Усе апрануты ў светлыя фрэнчы... Тыповая сям'я абшарніка, ці, як тады яшчэ казалі, панская [illegible]я. Гэта было дзіва! Спаткаць у краіне развітога сацыялізму чалавека, які калісь належаў да маёмаснага роду! Іх жа ўсіх -- ці пасыпалі, ці ў турмах пагнаілі, ці самі пазбягалі. А тут, у Радашкавічах, пад Мінскам, жыве сабе адна з іх. Праўда, не ў палацы, а ў звычайнай местачковай хаце-мазанцы, глінабітцы. Ну але што ж таго -- яна, як ні круці, з панскага роду. Пытаюся, а ці не цяжка ёй, панскай дачцэ, было ўжывацца ў пралетарска-батрацкае жыццё? Ці была яна гатовая да суровых выпрабаванняў? Ці было якоесь абурэнне, незадавальненне? "А не, -- кажа яна. -- З маладых гадоў усім нам выпала нялёгкае жыццё... Вайна 1914 года, рэвалюцыі... Яны ўжо ўсіх нас памалі, прывучалі да ўсялякага. А я з малых гадоў любіла цэлымі днямі бегаць босая, корпацца ў градах, ездзіла на конях, лазіла па дрэвах. То неяк неўпрыкмет і такое жыццё прыняла. Дый з малых гадоў у сям'і да працы прывучалі. Тата не любіў пыхі. Асабліва шкоднай лічыў раскошу для дзяцей..."

...Шмат чаго памятае Вера Андрэеўна. Зрэдку друкуе свае ўспаміны.

Жыве яна зараз у Радашкавічах з сваёй дачкой Ірынай. Нявроста ім жыць у старым доме, з кафлянымі грубкамі. Але жывуць, не наракаюць. Асабліва цяжка зімою, калі трэба і паліва самім здабываць, і апальваць астылую за ноч хату. Але скрозь жывуць людзі -- хто як можа, дапамагае. Паміж іншым, Сніткі калісь таксама памагалі ўсім, хто ў гэтым меў патрэбу. Гэта варта памятаць!

Вера Андрэеўна сустракае сваю дзевяноста шостую вясну. Яе запаветная мара -- убачыць нашу краіну, наш народ нарэшце шчаслівым. І яна на такое жаданне мае права. Яна ж нарадзілася на заранку стагоддзя і ведае жыццё народа не толькі з кніг. Што далей будзе -- пажывем, пабачым. А пакуль, паводле слоў самой Веры Андрэеўны, шчыміць яе сэрца за Беларусь.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Вера НІЖАНКОЎСКАЯ (СНІТКА); сям'я СНІТКАЎ (Вера -- другая злева). 1914 г.**

---

## З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# СВЯТКУЕ РОДНАЯ ШКОЛА

Маладая яшчэ (тры гады працы) беларуская школа ў Вільні вызначаецца таксама маладым векам сваіх педагогаў. Поўныя энергіі і веры ў несмяротнасць свае нацыі і яе культуры, маладыя настаўнікі і кіраўніцтва школы, пры (хоць скромнай) дапамозе "Сябрыны", наладзілі сустрэчу "Развітанне з зімою". Вядома, зіма ў гэтым годзе была вострая, з вялікімі маразамі, пасля якіх заваліла нас снегам, і моладзі не цярпіцца сустрэць сонечную і цёплую вясну!

Дзень выдаўся ціхі і спакойны, з лёгкім марозікам. У зале школы была наладжана выстава прац каля дзесятка мінскіх і віленскіх мастакоў, у калідорах -- развешаны мастацкія пробы юных талентаў -- школьнікаў. А на адкрытым, шырокім панадворку раскладзена вялікае вогнішча. Праграма, хоць крыху сумбурная, была даволі багатая.

Пачнём ад выставы. Некалькі дзесяткаў карцін былі ўзяты з папярэдняй вялікай выставы многіх мінскіх і некалькіх віленскіх мастакоў (у галерэі "Арка"). Але... некаторым гэтая невялікая выстава больш спадабалася, чым рэкламаваная, агульнагарадская. Бадай, па той прычыне, што сюды трапілі работы рэалістычнага напрамку, дзе мы бачылі нашы родныя палеткі і ўзлескі, вясковыя хаты і сялянскі (пераважна) каларыт, цудоўнае неба -- усё блізкае беларускай шчырай і простай душы. Не было тут жанчын з адным вокам на лобе, а з другім на барадзе ці нейкіх незразумелых плямаў.

Пасля агляду гэтай выставы на душы аставаўся міратворны і ясны спакой, святло сонца і вера ў вечнасць прыроды і народа. Цёплае ўражанне стварылі акварэльная "Цішыня" Г.Шаўро; "Жураўлі" Л.Мельніка; алейны абразок Сяргея Поклада "Зімовы пейзаж"; "Дарога" і "Вясна на Нарачы" В.Гоманава; "Праталіны" А.Дроба; "Кветкі" Грыгаровіча. На жаль, мала было мастацкай творчасці віленчукоў -- Алега Аблажэя, Кузьменкі і інш.

У міжчасе на надворку сабралася каля сотні вучняў, іх бацькоў, гасцей. Гучала музыка (народныя мелодыі і песні), зайграў акардэон. На століках дзяўчаткі і іх мамы разлажылі свежыя аладачкі, сувеніры, выканаными рукамі вучаніц і вучняў. Загарэлася вогнішча. Высока шугаў агонь у светлае неба, наўкола -- шматколерны, дынамічны і вясёлы карагод. А ўслед за гэтым... пасыпаліся снежкі, так густа і метка, што дасталася і педагогам (нават дырэктару Галіне Сівалавай). Не абмінула гэта бура снежных "ракет" і гасцей! Усім хапіла!

Тым часам побач, на ўзгорачку, згуртавалася жаночы харавога гуртка "Сябрына" пад кіраўніцтвам таленавітай акардэаністкі, настаўніцы школы Вольгі Блажэвіч. Загучалі жартоўныя народныя песні... Заціх наваколны гоман і гульні. Выкананне песень (асабліва пазней, пры вогнішчы) зачаравала людзей. Калі сказаць вобразна, цудоўна загучаў музычны талент маладзенькай настаўніцы, выпускніцы мясцовай кансерваторыі. Яе божая іскра запаліла нашы душы, змусіла забыцца пра ўсё, успрымаючы вялікае мастацтва выдатных кампазітараў і гарманізатараў. Родныя мелодыі лунаді пад зімовае неба, па-над аснежанымі дрэвамі і будынкамі, пакідаючы ў нашых сэрцах незмывальныя сляды.

А пасля ўдзельнікі хору, асабліва спадарыня Яруліна і папулярны гісторык Сяргей Вітушка, цэлай навальніцай прыпевак і брандушак (ізноў пры акампанеменце Блажэвіч), поўных гумару і сатыры, выклікалі буру смеху і весялосці. Паўтараліся карагоды і гульні на ўтаптаным снезе, але ўжо не маленькіх падлеткаў, а дарослых і пажылых жанчын і дзецюкоў.

Неўзабаве пад'ехалі сані, запрэжаныя добрым канём, і гаманлівы гурт малодшых гледачоў рынуўся туды, каб пакатацца па беленькім снезе.

**Аляксей АНІШЧЫК.**

# ВЫХАВАННЕ НА ВЕКАВЫХ ТРАДЫЦЫЯХ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Але тыя поспехі былі б немагчымыя, калі б студэнты былі абмежаваны толькі аўдыторыямі. Значную дапамогу аказвалі такія формы работы, як штогадовы пленэр-практыка, вытворчая і педагагічная практыка, экспедыцыі. Выкананне праграмы па акадэмічных дысцыплінах, па прадметах народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва праходзіла ў час летніх выездаў у Мір, Нясвіж, Навагрудак, на Браслаўшчыну. Прырода роднага краю, гістарычныя куткі нашай радзімы, сустрэчы з народнымі майстрамі -- усё гэта ўзбагачае нашых студэнтаў, выхоўвае любоў да бацькаўшчыны, да ўсяго, што створана і ствараецца беларускім народам.

Карысныя для студэнтаў творчыя і вучэбныя выставы іх работ, што праводзяцца ва універсітэце, у горадзе, у рэспубліцы. Яны карыстаюцца вялікім поспехам у гледачоў, а гэта стымулюе студэнтаў на новыя пошукі.

Часта бываюць нашы студэнты ў творчых майстэрнях вядомых беларускіх мастакоў. Кожнае знаёмства з творчасцю мастака становіцца прадметам глыбокага вывучэння і аналізу не толькі асаблівасцей яго творчай манеры, асабістага мастацкага светаўспрымання, але і асэнсавання тэндэнцыі развіцця ўсяго выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Гэта таксама выдатная школа вучобы на сапраўдных узорах жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкланога мастацтва. Карысныя сустрэчы з такімі вядомымі ў мастацкай культуры творцамі, як народны мастак СССР М. Савіцкі, народныя мастакі Беларусі Л. Шчамялёў, Г. Вашчанка, заслужаныя дзеячы мастацтва Беларусі Л. Дударанка, А. Марачкін і іншыя.

Нельга сказаць, што сёння мы не маем цяжкасцей, праблем і нявырашаных задач. Але трэба працаваць, навучаць нашу моладзь, шукаць магчымасці падтрымліваць той бесперапынны працэс навучання, выхавання, фарміравання чалавека на традыцыях, якія складаліся стагоддзямі.



**Рыгор ШАУРА,**
**загадчык кафедры народных рамёстваў Беларускага універсітэта культуры.**

**НА ЗДЫМКАХ: вырабы студэнтаў з саломкі і гліны; студэнтка 5-га курса Людміла ПАХОМАВА працуе на кроснах.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## *НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# СЛАВУТЫЯ АСОБЫ, ВЫДАТНЫЯ ПОМНІКІ

Даўно філатэлісты чакалі запланаваную на 1995 год серыю мініяцюр "Выдатныя асобы Беларусі", выпуск якой усё адкладваўся. Нарэшце тры маркі, прысвечаныя Льву Сапегу, Казіміру Семяновічу і Сімяону Полацкаму, пастпілі ў паштовае абарачэнне. Іх выхад суправаджаўся спецыяльным гашэннем "Першы дзень".

Новую серыю адкрывае марка, прысвечаная канцлеру Льву Сапегу (1557--1633), аднаму з аўтараў Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.

Другая марка серыі прысвечана Казіміру Семяновічу. Гады яго нараджэння і смерці дакладна не ўстаноўлены, таму на марцы (як і ў энцыклапедыі) пасля дат "1600--1651" пастаўлены пытальнік. Калі гэтая марка з'явілася ў руках у філатэлістаў, многія з іх нічога не ведалі пра К.Семяновіча і са здзіўленнем разглядалі малюнак маркі -- з адлюстраваннямі гарматных ствалоў і нават ракет. К.Семяновіч быў інжынерам і тэарэтыкам артылерыі, намеснікам начальніка кароннай артылерыі Рэчы Паспалітай. Напісаў кнігу "Вялікае мастацтва артылерыі. Частка першая", яна была выдадзена ў Амстэрдаме ў 1650 годзе і перакладзена на многія мовы Еўропы -- нямецкую, французскую, англійскую, галандскую, дацкую і іншыя. Амаль паўтара стагоддзя кніга з'яўлялася падручнікам для спецыялістаў артылерыі. Па ёй вучыўся расійскі цар Пётр І. У кнізе не толькі апісваліся розныя канструкцыі гармат, іх выкарыстанне, тэхналогія вытворчасці пораху, але і першыню была прапанавана ідэя шматступенчатай ракеты (вось чаму на марцы дадзена адлюстраванне ракеты і яе чарцёж з некалькімі камерамі для згарання паліва), ракетных батарэй і стабілізатараў ракет. І ўсё гэта намнога раней было вынайдзена, чым ракетчыкамі ў іншых краінах. Сам спецыяліст па артылерыі, К.Семяновіч паказаны аўтарам маркі са сваёй кнігай у руках.

Апошняя мініяцюра гэтай арыгінальнай серыі прысвечана Сімяону Полацкаму (1629—1680), які ўнёс вялікі ўклад у развіццё беларускай і рускай культуры. Выпушчаная серыя марак выклікала вялікую цікавасць у беларускіх філатэлістаў сваёй гістарычнай значнасцю, а таксама арыгінальным афармленнем. Аматары марак спадзяюцца, што серыя "Выдатныя асобы Беларусі" будзе прадоўжана і ў 1996 годзе.

У практыцы Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі ўжо маюцца серыі з працягам. У 1994 годзе пошта выпусціла серыю марак з адлюстраваннем Петрапаўлаўскага сабора ў Гомелі і Міхайлаўскай царквы ў вёсцы Сынкавічы (Зэльвенскі раён). Дзве новыя маркі таксама прысвечаны беларускім архітэктурным помнікам. Аўтар гэтых новых мініяцюр



мастак М.Бекаў. Ён афармляў маркі на гэтую ж тэму і ў 1994 годзе.

На адной з новых марак паказаны касцёл кармелітаў у Мсціславе. Гэта помнік архітэктуры барока. Звесткі аб закладцы касцёла ў розных крыніцах указаны па-рознаму -- у адных 1614 год, у іншых -- 1637--1638 гады. Інтэр'ер касцёла багата дэкарыраваны лепкай і фрэскамі. У касцёле захавалася каля 20 кампазіцый фрэсак. Сярод іх самыя вядомыя -- партрэт фундатара, "Узяцце Мсціслава маскоўскімі войскамі ў 1654", а таксама "Збіванне ксяндзоў". Гістарычную цікавасць мае таксама фрэска з панарамай каменных збудаванняў Мсціслава.

Другая марка архітэктурнай серыі прысвечана касцёлу Іаана Хрысціцеля, пабудаванаму ў XYII--XYIII стагоддзях у вёсцы Камаі Пастаўскага раёна. Вельмі цікавая архітэктура гэтага касцёла -- каля галоўнага ўваходу дзве шасціметровыя круглыя вежы з байніцамі і амбразурамі. Вежы маюць па пяць метраў у дыяметры. Сцены касцёла двухметровай таўшчыні з высокімі арачнымі вокнамі. У касцёле чатыры разныя алтары, арган, фрэскі.

У дзень выхаду гэтай серыі ў паштовае абарачэнне на паштамце Мінска было праведзена спецыяльнае гашэнне "Першы дзень".

Вось пра гэтае гашэнне і хочацца сказаць некалькі слоў. Штэмпель "Першы дзень" прымяняецца поштай з красавіка 1992 года з дня выхаду маркі "100 год з дня нараджэння Р.Р.Шырмы". Гэта значыць, што больш чым тры з паловай гады пошта прымяняе адзін і той жа спецыяльны штэмпель, тым самым абясцэньваючы для калекцыянераў спецгашэнне. У калекцыях філатэлістаў ужо сабралася больш за пятнаццаць спецгашэнняў "Першы дзень" з аднолькавым штэмпелем. А гэта не ўпрыгожвае беларускую філатэлію.

**Леў КОЛАСАЎ.**




## *СПОРТ*



**Удзелам у прэстыжных міжнародных спаборніцтвах пазначаны мінулы год для выхаванцаў гомельскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы N 4, дзе падрыхтавана яшчэ два майстры спорту міжнароднага класа і пяць майстроў спорту.**

**НА ЗДЫМКУ: майстры спорту міжнароднага класа, бронзавыя прызёры Маладзёжнага чэмпіянату свету Аксана ФЕАКЦІСТАВА і Кацярына РАКЧЭЕВА ў час паказальных выступленняў.**

ВОЛЬНАЯ БАРАЦЬБА. У Венгрыі завяршылася першынство Еўропы. Вызначыліся пераможцы ў камандным і асабістым заліку. Зборная Беларусі заняла чацвёртае месца. У асабістым заліку толькі гамяльчаніну Сяргею Смалю ўдалося заняць прызавое месца -- ён заваяваў бронзавы медаль.

Але прыемнае для нас тое, што на гэтых спаборніцтвах сем беларускіх спартсменаў заваявалі пуцёўкі на Алімпійскія гульні ў Атланту.

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. Буйны міжнародны турнір прайшоў у Германіі. Беларускія гімнасты, як заўжды, былі на першых ролях. Так, Іван Іванкоў атрымаў чатыры медалі ў асобных практыкаваннях -- сярэбраны і тры бронзавыя. "Золата" ў апорных скачках дасталася Віталю Шчэрбе. Першае месца ў практыкаваннях на брусах заняла Алена Піскун.

ФУТБОЛ. Міжнародная федэрацыя футбола дала дазвол Беларусі выставіць яшчэ адзін клуб у розыгрышы Кубка УЕФА ў сезоне 1996/97 года. Адзін з удзельнікаў ужо вядомы — мінскае "Дынама". На другую пуцёўку прэтэндуюць мазырскі клуб МПКЦ і яшчэ адна сталічная каманда -- "Дынама-93".

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 354. Падпісана да друку 1. 4.1996 г.